


لا يؤمن أحدكم حتى يحب لأخيه ما يحب لنفسه

# ТАТАРЫ
# НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

2.1992

*БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ*

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН НА БЕЛАРУСІ
("АЛЬ-КІТАБ")

2

МЕНСК 1992

Згуртаванню татарау-мусульман на Беларусі ("Аль-Кітаб") вялікую інтэлектуальную і матэрыяльную дапамогу аказалі спадары і спадарыні:
С.АБЯЗАВА, І.АЛЕКСАНДРОВІЧ, Б.АЛЯКСАНДРАЎ, А.БАРКОЎСКІ, Х.БАСЬЮНІ, І.БІКІНІН, Р.ГАМЗОВІЧ, Э.ВАЛІШЭЎСКАЯ-САБАЛЕЎСКАЯ, А.ДРОЗД, Я.ЖДАНОВІЧ, Л.КАЗЛОЎ, Л.КАНАРСКАЯ, А.ЛЮТЫ, Г.МАСЛЫКА, І.МЕМЕТАЎ, В.МАЦКІШЭНКА, А.МІСЬКЕВІЧ, З.ПАЎЛАВА, У.ПРЫХАЧ, Р.САБАЛЕЎСКІ, Ю.СТАФАНАЎ, М.СУША, А.ТАМАРГАЕВА, У.ТРАЦЭЎСКІ, А.УСМАНАВА, А.ШАГІДЭВІЧ, В.ШАРАНГОВІЧ, Т.ЯКУБОЎСКАЯ.

Вельмі дапамаглі "Аль-Кітабу" студэнты браты-мусульмане з арабскіх краін.

Першы нумар "Байрама" за 1992 г. надрукаваны за кошт Менскага абласнога аддзялення фонду культуры Беларусі. Гэты, другі нумар "Байрама" надрукаваны за кошт мусульманіна з горада Гродна Ю.Крыніцкага.

Прыміце татарскі рахмат і глыбокую пашану.

---

Тыраж 300 экз. Фармат 60 х 84 1/16
Ум. друк. арк. 4,5.
Надрукавана ў г.Гродна

Салям алейкум, паважаныя спадарыні і спадары!

Пачнем з таго, што дзеіцца у мусульманскіх абшчынах на Беларусі. Мы ўжо маем восем зарэгістраваных нашых абшчын, на падыходзе яшчэ некалькі, цяпер ужо у Менскай вобласці. Гродзенскія татары прапануюць стварыць асобны ісламскі мухтасібат ( мусульманскае епіскапства ) на Беларусі. Дзейнасць мухтасібата Літвы, Латвіі, Эстоніі, Калінінградскай вобласці ( у гэтай вобласці каля 3700 татараў ) і Беларусі цяпер крыху ускладняецца, бо паездка у Талін, дзе знаходзіцца упраўленне мухтасібата, ужо патрабуе візы і доляраў. Калі б у нас было свае мусульманскае упраўленне, то і сувязь наша з мусульманскімі установамі замежных краін была бы больш рэгулярнай і надзейнай.

Можа найважнейшай справай нашых татараў становіцца навучанне Ісламу дзяцей. У гэтым нумары "Байрама" мы друкуем першапачатковы падручнік для дзетак-мусульман. Пасля азнаямлення з ім нашай мусульманскай грамадскасці можна былобы ўзяць і з"ехацца годжам з Іуя, Клецка, Навагрудка, Гродна Менска і іншых гарадоў і мястэчак, каб падзяліцца вопытам навучання дзяцей, а заадно і паслухаць лекцыі па асновах Ісламу, гісторыі беларускіх татараў, абмеркаваць слоўнік і некаторыя артыкулы даведніка пра нашых татараў. На час гэтага 5 — 7-дзённага семінара годжаў прытулак і харчаванне для прыезджых дадуць менскія мусульмане.

Семінар мусульманскіх настаўнікаў можна было бы прымеркаваць да закладкі джаміі і мізару у Менску.

А цяпер пару слоў пра нашых адзінакроўных братоў — крымскіх і казанскіх татараў. У другой палавіне чэрвеня крымскія татары праводзяць навуковую канферэнцыю аб пераходзе крымскататарскай пісьменнасці на лацінскую графіку. Запрошаны як удзельнікі канферэнцыі і нашы татары.

У Татарстане з 20 чэрвеня пройдуць урачыстасці, навуковыя канферэнцыі і іншыя мерапрыемствы у сувязі з абвяшчэннем і канстытуцыйным афармленнем дзяржаўнай незалежнасці Татарскай Рэспублікі. Выклікае добрую зайздрасць тое, што у Татарстане больш за 90 % працаўнікоў сельскай гаспадаркі — гэта татары. Яшчэ задоўга да уварвання манголаў на землі Татарстана у іх было добра развіта земляробства. І савецкая улада не адвучыла людзей ад зямлі. А раз ёсць яшчэ сялянства, то ёсць працалюбства і гонар.

لَا يُؤَاخِذُكُمُ ٱللَّهُ بِٱللَّغْوِ فِيٓ أَيْمَٰنِكُمْ وَلَٰكِن يُؤَاخِذُكُم بِمَا كَسَبَتْ
قُلُوبُكُمْ ۗ وَٱللَّهُ غَفُورٌ حَلِيمٌ ﴿٢٢٥﴾ لِّلَّذِينَ يُؤْلُونَ مِن نِّسَآئِهِمْ تَرَبُّصُ
أَرْبَعَةِ أَشْهُرٍ ۖ فَإِن فَآءُو فَإِنَّ ٱللَّهَ غَفُورٌ رَّحِيمٌ ﴿٢٢٦﴾ وَإِنْ عَزَمُوا۟
ٱلطَّلَٰقَ فَإِنَّ ٱللَّهَ سَمِيعٌ عَلِيمٌ ﴿٢٢٧﴾ وَٱلْمُطَلَّقَٰتُ يَتَرَبَّصْنَ
بِأَنفُسِهِنَّ ثَلَٰثَةَ قُرُوٓءٍ ۚ وَلَا يَحِلُّ لَهُنَّ أَن يَكْتُمْنَ مَا خَلَقَ ٱللَّهُ فِيٓ
أَرْحَامِهِنَّ إِن كُنَّ يُؤْمِنَّ بِٱللَّهِ وَٱلْيَوْمِ ٱلْءَاخِرِ ۚ وَبُعُولَتُهُنَّ أَحَقُّ بِرَدِّهِنَّ
فِي ذَٰلِكَ إِنْ أَرَادُوٓا۟ إِصْلَٰحًا ۚ وَلَهُنَّ مِثْلُ ٱلَّذِي عَلَيْهِنَّ بِٱلْمَعْرُوفِ ۚ
وَلِلرِّجَالِ عَلَيْهِنَّ دَرَجَةٌ ۗ وَٱللَّهُ عَزِيزٌ حَكِيمٌ ﴿٢٢٨﴾ ٱلطَّلَٰقُ مَرَّتَانِ ۖ
فَإِمْسَاكٌۢ بِمَعْرُوفٍ أَوْ تَسْرِيحٌۢ بِإِحْسَٰنٍ ۗ وَلَا يَحِلُّ لَكُمْ أَن
تَأْخُذُوا۟ مِمَّآ ءَاتَيْتُمُوهُنَّ شَيْـًٔا إِلَّآ أَن يَخَافَآ أَلَّا يُقِيمَا حُدُودَ
ٱللَّهِ ۖ فَإِنْ خِفْتُمْ أَلَّا يُقِيمَا حُدُودَ ٱللَّهِ فَلَا جُنَاحَ عَلَيْهِمَا فِيمَا ٱفْتَدَتْ
بِهِۦ ۗ تِلْكَ حُدُودُ ٱللَّهِ فَلَا تَعْتَدُوهَا ۚ وَمَن يَتَعَدَّ حُدُودَ ٱللَّهِ فَأُو۟لَٰٓئِكَ
هُمُ ٱلظَّٰلِمُونَ ﴿٢٢٩﴾ فَإِن طَلَّقَهَا فَلَا تَحِلُّ لَهُۥ مِنۢ بَعْدُ حَتَّىٰ تَنكِحَ
زَوْجًا غَيْرَهُۥ ۗ فَإِن طَلَّقَهَا فَلَا جُنَاحَ عَلَيْهِمَآ أَن يَتَرَاجَعَآ إِن ظَنَّآ أَن
يُقِيمَا حُدُودَ ٱللَّهِ ۗ وَتِلْكَ حُدُودُ ٱللَّهِ يُبَيِّنُهَا لِقَوْمٍ يَعْلَمُونَ ﴿٢٣٠﴾

Кур"ан. Сура Аль-Бакара, аяты 226 — 229.

# К У Р " А Н

## Сура Аль-Бакара

( працяг )

196. Не будзе грэхам для вас звяртацца да шчодрасці вашага Уладыкі. І калі вы выйдзеце з Арафата, успомніце Алаха пры запаветным помніку; і помніце Яго, як Ён павучаў вас, хаця да гэтага вы былі з тых, што заблыталіся.

197 Затым ідзіце, куды людзі ідуць, і прасіце у Алаха прабачэння. Сапраўды, Алах Усёдаравальны і Міласэрны.

198. І калі вы выканаеце прызначаныя вам абрады пакланення, усхваліце Алаха, як вы усхвалілі бацькоў вашых, ці нават больш таго. І ёсць сярод людзей такія, што гавораць: "Уладыка наш, абдары нас дарамі добрымі ў гэтым жыцці", і такія не атрымаюць свае долі у жыцці будучым.

199. І ёсць людзі, што гавораць: "Уладыка наш, падаруй нам дабро як у гэтым свеце, так і ў тым, якое прыйдзе, і захавай нас ад пакут агню".

200. Для такіх прыгатаваны добры лёс, бо яны яго заслужылі. Алах разлічваецца хутка!

201. І помніце Алаха ўсе прызначаныя дні, але, калі хто паспяшаецца назад цераз два дні, гэта не будзе грэхам, хто застанецца больш, то і гэта не будзе яму грэхам. Гэта адносіцца да тых, хто баіцца Алаха. І бойцеся Алаха і ведайце, што ўсе вы разам станеце перад Ім.

202. І паміж людзей ёсць той, хто зававблівае сваімі словамі пра жыццё гэтае і заклікае Алаха быць сведкай таго, што ў сэрцы яго; аднак ён сам зацяты сейбіт разладу.

203. І, калі ў яго улада, ён гойсае па краіне, каб сеяць беспарадак у ёй, і знішчыць пасевы і нашчадкаў людзей, — а Алах не любіць псуты.

204. І калі яму гавораць: "Бойся Алаха", ганарыстасць штурхае яго на далейшыя грахі. Пекла будзе яму найлепшай узнагародай, і, сапраўды, дрэннае гэта месца для адпачынку.

205. І сярод людзей ёсць такія, хто гатовы прадаць самога сябе, каб дагадзіць Алаху; і Алах вельмі спачувае слугам Сваім.

206. О, вы, вернікі, пакарыцеся цалкам і не ідзіце па слядах д"ябла; сапраўды, ён ваш яўны вораг.

207. Але, калі вы спатыкняцеся пасля ясных знакаў, дараваных вам, ведайце, што Алах Магутны і Мудры.

208. Ці чакаюць яны, каб Алах сышоў да іх пад покрывам аблокаў з анёламі, і ўсе вырашылася? І ўсё вяртаецца да Алаха.

209. Спытай у сыноў Ізраілевых, колькі ясных знакаў Мы падарылі ім. Але калі хто зменіць дар Алаха пасля таго, як ен сышоў да яго, Алах суровы ў пакаранні.

210. Жыццё гэтага свету прываблівае для няверных; і яны смяюцца з вернікаў. Але тыя, што баяцца Алаха, узвысяцца над імі ў дзень Уваскрасення; і Алах надзяляе дарамі Сваімі, каго ен захоча, без разліку.

211. Чалавецтва было адзінай абшчынай; але потым пачаўся разлад паміж імі; тады Алах узвысіў прарокаў -- носьбітаў добрай весткі і перасцярогі, і паслаў з імі Пісанне, у якім ісціна, каб рассудзіць людзей, у чым іх разыходжанні. Але цяпер у іх узнікла разнагалоссе пра Пісанне, і ніхто не спрачаўся пра яго, апрача тых, каму яно было даравана, пасля таго, як ясныя знакі былі пасланы ім, з-за зайздрасці адзін да аднаго. І вось цяпер Алах загадам Сваім накіраваў вернікаў да ісціны, пра якую ў няверных адбыліся разнагалоссі; Алах накіроўвае на шлях праўдзівы ўсякага, каго захоча.

212. Ці вы думаеце ўзнесціся на неба раней, чым дасягнеце стану тых, што пакінулі жыццё раней за вас ? Беднасць і нягоды спасцігні іх і жорсткія ўзрушэнні пакуль не заклікаў Пасланнік і тыя, хто верыў, разам з імі сказалі: "Калі ж прыйдзе дапамога ад Алаха ?" Так, сапраўды, дапамога Алаха блізка.

213. Яны пытаюць у цябе: ці многа трэба ахвяраваць. Скажы: "Усё, што б вы ні ахвяравалі з вашага дабра і шчодрага багацця, павінна ахвяравацца вашым бацькам і блізкай радні, і сіратам, і хто церпіць нястачу і падарожнічае. І пра усё добрае, якое вы робіце, добра ведае Алах.

214. Зямля назначана вам, хоць яна вам і ненавісная; але можа быць, што вам не падабаецца тое, што вам на дабро, і, магчыма, вам падабаецца тое, што зло для вас. Алах ведае усё, а вы не ведаеце.

215. Яны пытаюцца ў цябе пра войны у час свяшчэннага месяца. Скажы: "Вайна у гэты час ёсць вялікае беззаконне, але утрымліваць людзей на шляху Алаха і быць няўдзячным Яму і не пускаць людзей у Свяшчэнную Мячэць і выганяць народ з яе — яшчэ большы грэх перад Алахам; і ганенне горшае за забойства. І яны не спыняць вайны супроць вас, пакуль яны не адвернуць вас ад вашай веры, калі яны змогуць. І калі хто адвернецца ад веры сваей і памрэ у нявер"і, марная будзе праца яго у гэтым свеце і у будучым. Яны — насельнікі агню, і у ім яны будуць жыць.

216. Тыя, што вераць і тыя, што пакідаюць дамы свае і дзейнічаюць са стараннем у імя Алаха, тыя спадзяюцца на міласць Алаха; і Алах Усёдаравальны і Міласэрны.

217. Яны пытаюцца у цябе пра віно і азартныя гульні. Скажы: " І у адным і у другім многа грэху, а таксама нямнога выгоды для людзей; але грэху у іх больш, чым выгоды". І яны пытаюцца у цябе, ці многа ім трэба ахвяраваць. Скажы: "давайце ад лішку". Так растлумачвае Алах Свае запаведзі для роздуму вашага.

218. Так, для роздуму вашага пра гэты свет і будучы. І яны пытаюцца у цябе пра сірат. Скажы: "Палепшанне іх дабрабыту ёсць вялікае дабро. І калі вы маеце зносіны з імі, то яны вашы браты. Алах адрознівае зламыснікаў ад тых, хто робіць палепшанне. І калі такая была б воля Алаха, Ён прымусіў бы вас цярпець нястачу. Сапраўды, Алах Магутны і Мудры.

219. І не жаніцеся на ідалапаклонніцах, пакуль яны не паверацъ; нават нявольніца, калі яна верыць, лепшая за ідалапаклонніцу, хаця вы яе вельмі кахаеце. І не выдавйце замуж жанчыны, што верыць, за ідалапаклонніка, пакуль ён не паверыць; нават раб, які верыць, лепшы за ідалапаклонніка, нават калі вы яго кахаеце. Яны заклікаюць да агню, а Алах заклікае да нябёсаў і да даравання загадам Сваім.

220. І яны пытаюцца ў цябе пра кровацячэнне ў жанчын. Скажы: "Гэта нешта шкоднае, таму аддаляйцеся ад жанчыны ў час кровацячэння, і не ляжыце з ёй, пакуль яна не ачысціцца. **Але калі яна** ачысціцца, ляжыце з ёй, як Алах загадаў вам. Алаху пажаданыя тыя, якія звяртаюцца да яго, і пажаданыя тыя, хто трымае сябе ў чысціні.

221. Вашы жонкі як бы ворнае поле для вас; такім чынам, наведвайце ворыва сваё, калі вам зажадаецца, і прадвызначайце нешта добрае самому сабе; і бойцеся Алаха і ведайце, што вы сустрэнеце Яго; і нясіце добрую вестку пакорным.

222. І не рабіце Алаха прадметам для клятваў вашых, каб прымусіць гэтым людзей рабіць дабро і дзейнічаць праўдзіва і насаджаць мір сярод людзей. Алах усё чуе, усё ведае.

223. Алах не прыцягвае вас да адказу за клятвеннае слова, сказанае марна, але Ён прыцягне вас да адказу за тое, што заслужылі вашы сэрцы. Алах Доўгацярплівы і Усёдаравальны.

224. Тыя, што прысягаюць адыйсці ад сваіх жонак, павінны чакаць чатыры месяцы. Калі ж яны вернуцца... сапраўды, Уседаравальны і Міласэрны Алах.

225. І калі яны рашаюцца на развод, то, сапраўды, Алах Усёчуйны, Усёведны.

226. І разведзеныя жонкі павінны трымацца і чакаць тры месячныя ачышчэнні; і незаконна ім хаваць, што Алах зрабіў у ўтробе іх, калі яны вераць у Алаха і Апошні Дзень. І мужы іх маюць большае права прыняць іх назад у гэты час, калі яны пажадаюць прымірэння. І, дзеля справядлівасці, маюць аднолькавыя правы з мужчынамі, але мужчыны стаяць вышэй за іх па годнасці. Алах Усемагутны і Мудры.

227. Такі развод можна аб"яўляць двойчы; пасля гэтага або пакіньце пры сабе прыстойна, або адашліце іх добразычліва. І незаконна вам браць назад што-небудзь з таго, што вы далі ім ( вашым жонкам), хіба толькі тады, калі абодва бакі баяцца, што яны не змогуць вытрымаць вызначанага Алахам межаў. Калі вы баяцеся гэтага, то калі яна што дасць, каб мець свабоду, то не будзе грэху ні для каго з іх. Такія межы, вызначаныя Алахам, не пераступіце іх; і калі хто пераступіць вызначаныя Алахам межы — зробіць зло.

228. І калі муж развядзецца з жонкай трэці раз, яна не будзе яму законнай , пакуль не выйдзе замуж за іншага мужа; і калі ён таксама развядзецца з ёю, то тады не будзе грэхам ім вярнуцца адзін да аднаго, калі яны упэўнены, што не парушаць вызначаныя Алахам межы. Такія межы вызначаны Алахам людзям разумным.

229. І калі вы развяліся з вашымі жонкамі, і яны падышлі да канца вызначанай ім мяжы, то або пакіньце іх прыстойна пры сабе або прыстойна іх адашліце; але не ўтрымлівайце іх несправядліва каб не пераступіць закон. Хто так робіць, сапраўды, робіць шкоду сваей душы. І не ператварайце ў жарт запаветы Алаха, і помніце пра гнеў Алаха да вас, і пра Кнігу, і пра Мудрасць, якія Ён паслаў вам, праз якія Ён пераконвае вас. І бойцеся Алаха і помніце, што Алах усё ведае.

230. І калі вы разводзіце жонак, і яны дасягаюць іх мяжы ( трох месячных ачышчэнняў ), не перашкаджайце іх замужжу з іх нарачонымі, калі яны пагадзіліся паміж сабою належным чынам. Гэта павучанне даецца таму з вас, хто верыць у Алаха і ў Апошні Дзень. І ў ім многа дабрыні для вас і чысціні; і Алах ведае, чаго вы не ведаеце.

231. Маткі павінны карміць грудзьмі дзяцей сваіх цэлых два гады; гэта адносіцца да тых, што хочуць завяршыць кармленне. І мужчына, якому належыць дзіця, мае адказнасць за харчаванне матак і вопратку адпаведна са звычаям. Ні адна душа не абцяжарваецца вышэй сіл яе. Матка не павінна рабіць шкоды бацьку з-за дзіцяці яе; такі ж абавязак мае спадчыннік. Калі яны абодва рашаць адняць дзіця ад грудзей, узаемна пагадзіўшыся і абмеркаваўшы, за гэта няма ім асуджэння. І калі вы хочаце наняць кар-

міцельку дзецям вашым, не будзе вам асуджэння, калі вы будзеце плаціць, як вы дамовіліся плаціць сумленна. І бойцеся Алаха і ведайце, што Алах бачыць, што вы робіце.

232. І калі адзін з вас памрэ і пакіне пасля сябе жонак, жонкі павінны шанавацца чатыры месяцы і дзесяць дзён. І калі яны дачакаюць гэтага тэрміну, не будзе на вас грэху за ўсё, што яны рабілі з сабой прыстойна; і Алах усё ведае, што вы робіце.

233. І не будзе вам асуджэння ні за выказаны вамі адкрыта намёк пра шлюб з такой жанчынай, ні за ўтойванне жадання ў вашай галаве. Алах ведае, якія будуць вашы думкі пра іх. Але не заключайце дагавору тайна, а ўжывайце словы, якія ўвайшлі ў звычай. Не рашайцеся на шлюб да прыходу вызначанай мяжы. І ведайце, што Алах ведае, што ў галаве вашай; такім чынам, сцеражыцеся і ведайце, што Алах Усёдаравальны і Доўгацярплівы.

234. І не будзе вам грэхам, калі вы разведзяце жонак раней, чым дакрануліся да іх і вызначылі ім пасаг. Але забяспечце іх прыстойна — багаты па сваіх сродках, і бедны па сваіх сродках. Гэта ёсць абавязак дабрачыннага чалавека.

235. І калі вы разведзяце іх да таго, як дакрануліся да іх, але назначылі ім спадчыну, тады павінны заплаціць палавіну назначанага, калі жонкі самі не адмовяцца ад свайго права, або той, у каго ў руках права шлюбу не адмовіцца ад свайго права. І вы на шляху да праведнасці, калі вы вялікадушныя. І не забывайцеся рабіць дабро адзін аднаму. Сапраўды, Алах бачыць, што вы робіце.

( працяг будзе )



ЛЯ ІЛАХА ІЛЛА АЛЛАХУ МУХАММАДУН РАСУЛУ АЛЛАХІ.

Няма Госпада акрамя Алаха і Мухамед яго пасланнік.

---

ІД АЛЬ-АДХА — КУРБАН-БАЙРАМ

10-га зу-ль-хіджа пачынаецца вялікае мусульманскае свята Ід аль-адха або Ід аль-кабір, якое ў цюркскіх народаў, у тым ліку і ў беларускіх татараў называецца Курбан-Байрам. Па мусульманскаму месячнаму календару яно адзначаецца праз 70 дзен пасля заканчэння 30-дзеннага посту ў месяцы Рамазан. Селета ў арабскіх краінах гэта свята адзначаецца 10 чэрвеня, а ў некаторых іншых мусульманскіх краінах, у тым ліку ў беларускіх татараў яно святкуецца 11 чэрвеня.

Свята доўжыцца 3 — 4 дні. Яно супадае з днем завяршэння хаджу — паломніцтва ў святыя для мусульман месцы — Мекку і Медыну. Таму, каму пашчасціла пабываць і памаліцца ў святых месцах, дазваляецца насіць зяленую чалму і да яго імя дадаецца ганаровая назва хаджы. Хаджа карыстаецца вялікай пашанай у мясцовай абшчыне мусульман.

Традыцыя гэтага свята ўзыходзіць да вядомага сюжэта аб гатоўнасці Аўраама прынесці свайго сына Ісаака ў ахвяру Богу ( гл. Біблію, кніга "Быцце", главы 21 і 22 ). Але на месца біблейскага Ісаака мусульманская рэлігія ставіць Ісмаіла, лічачы яго старэйшым сынам, а Ісаак, па мусульманскіх уяўленнях — другі сын Аўраама ( па-арабску — Ібрагіма ).

Мусульманскае паданне гаворыць, што першая жонка Ібрагіма — Сара — была бясплоднай і Ібрагім, параіўшыся з ею, узяў сабе яшчэ адну жонку — рабыню, егіпцянку Хаджар ( у Бібліі — Агар) Але не было паміж жонкамі міру і згоды, і калі рознагалосс: зайшлі надта далека, Ібрагім па патрабаванні старэйшай жонкі

Сары адаслаў Хаджар у пустыню паміж Меккай і Ерусалімам. Неўзабаве ў пустыні Хаджар нарадзіла сына, разам з сынам пакутвала без вады. Раптам пачула яна голас, які гучаў паміж узгоркамі Сафа і Марва: "Вось вада!". Тады кінулася Хаджар спачатку ў напрамку да Сафы, але вады не знайшла. Затым пабегла да Марвы, але і там вады не аказалася. Сем разоў бегала яна паміж узгоркамі, але безвынікова. І загаласіла яна у роспачы: "Істамі, я іл, іл" -- пачуй мяне Госпадзі, Госпадзі. Адсюль і паходзіць імя Ісмаіл ( у Біблії -- Ізмаіл ). Вярнуўшыся на плач дзіцяці Хаджар убачыла побач з хлопчыкам чыстую крыніцу. Так было адзначана па волі Алаха гэтае дзіця.

Калі ж Ісмаіл падрос, Ібрагім атрымаў у сне загад Усявышняга прынесці сына ў ахвяру. Ібрагім быў чалавекам богабаязным і не мог не выканаць божы загад. Але да Ісмаіла у чалавечым абліччы з"явіўся шайтан ( ібліс ) і угаворваў не слухаццa бацькі. Ісмаіл не паслухаў шайтана. І накіраваўся Ібрагім з Ісмаілам да месца ахвярапрынашэння, наканаванага Богам. І калі яны яго дасягнулі, шайтан зноў з"явіўся перад Ісмаілам і зноў схіляў яго да непакорлівасці. Тады прызнаўся Ісмаіл бацьку свайму, што прыйшоў да яго нейкі чалавек і спакушае яго. Ібрагім жа зразумеў, што гэта шайтан выпрабоўвае сына і загадаў кінуць у ібліса камень. Затым працягнуў Ібрагім руку сваю і ўзяў нож, каб зарэзаць сына свайго. Ён ужо дакрануўся было да горла Ісмаіла, як Алах мовіў архангелу Джабраілу ( у Біблії -- Гаўрыілу ): "Спяшайся хутчэй да раба майго і перадай яму, каб не падымаў ён рукі на хлопца свайго і не рабіў над ім нічога, таму што я цяпер ведаю, што баіцца Ібрагім Мяне і не пашкадуе ў імя Мяне сына свайго". Адным махам крылаў Джабраіл дасягнуў зямлі і затупіў нож, перш чым той дакрануўся горла Ісмаіла. Тады ўзняў Ібрагім вочы свае і ўбачыў, што Джабраіл нясе для ахвяры барана і ўсклікнуў ад радасці: "Няма Бога, акрамя Алаха! Алах Вялік!" А Алах за тое, што Ібрагім вытрымаў гэтае выпрабаванне, благаславіў і абяцаў памножыць яго племя і зрабіць шматлікім як зоркі на небе і як пясок на беразе мора.

У адпаведнасці з арабскай ісламскай генеалогіяй ад Ісмаіла паходзяць усе паўночнаарабскія плямёны, а ад другога нашчадка Ібрагіма -- Кахтана -- арабы, якія жывуць на поўдн.. Сам жа

Ібрагім у Кур"ане і мусульманскім паданні ( Сунне ) азначаецца як продак арабау і яурэяу. Для мусульман ён ханіф — паслядоуны адзінабожнік, халілуллах — прыхільнік Алаха, прарок і аддзаны прапаведнік адзінасці і адзінства Алаха, духоуны продак Мухамеда і яго абшчыны. Такім чынам Курбан-Байрам сімвалізуе для мусульман сапраўднасць вучэння Мухамеда, пасланага яму у Кур"ане, а таксама усемагутнасць і міласэрнасць Усявышняга Алаха.

10-га зу-ль-хіджа ва усім мусульманскім свеце вернікі прыводзяць на ахвяру жывёлу у памяць пра гатоунасць Ібрагіма аддаць на ахвяру Алаху свайго сына.

Ужо за дваццаць дзён да наступлення Курбан-Байрама не дазваляецца весяліцца, ладзіць застоллі, апранаць новую вопратку, стрыгчыся і г.д. Але, як правіла, актыуна да свята пачынаюць рыхтавацца за тыдзень.

Тыя, хто мае свойскую жывелу, спецыяльна выкормліваць маладога быка, вярблюда, барана, таму што сказана у Кур"ане "Сытых Мы зрабілі для вас з адзначаных для Алаха; для вас з іх карысць. Памінайце ж імя Алаха над імі, пастауленымі у рад. А калі іх бакі паваляцца ( калі яны будуць зарэзаны ), то карміце іх мясам і стрыманага, і таго, хто просіць сарамліва..." ( сура 22, аят 37 ).

Зрабіушы ахвяру, мусульманін не павінен скупіцца на пачастункі. Абавязкова трэба накарміць бедных і галодных. Пра гэта у Кур"ане сказана: "каб сведчыць аб карысным ім і памінаць імя Алаха у вызначаныя дні над падараванай ім жывёлай: ешце іх і накарміце няшчаснага бедняка ( сура 22, аят 29 ). Рытуальная пачостка робіцца таксама каб пазбегнуць усялякіх няшчасцяу і хвароб.

Іншы раз у свята Курбан-Байрам можна бачыць, як прыгатаваных на ахвяру быкоу ці бараноу размалёуваюць фарбамі і упрыгожваюць маляунічымі караламі і бразготкамі. Паводле Ісламу дарога у рай праходзіць праз Сірат-мост, які перакінуты над пякельнай безданню. Мост гэты танчэй за чалавечы волас, вастрэй за лязо мяча і гарачэйшы за полымя. Каля уваходу на Сірат-мост у Судны Дзень будуць знаходзіцца жывёлы, прынесеныя у ахвяру на Курбан-Байрам. На іх будуць прававерныя перапраўляцца цераз Сірат-

мост у рай. Таму гаспадар стараецца пазначыць уласнага быка або барана, каб хутчэй адшукаць сваю жывелу ў гэты адказны час.

За гады савецкай улады нашы татары з прычыны беднасці не маюць сродкаў, каб прынесці ў ахвяру быка, нават барана. Таму ў гэта свята даюць грошы на карысць мусульманскай абшчыны. Набожныя мусульмане посцяцца за дзесяць дзен, а усе астатнія за дзень да наступлення Курбан-Байрама.

Святкаваць дзень ахвярапрынашэння пачынаюць ца ўзыходу сонца. Як толькі развіднее, мусульмане ідуць да мячэці на сабах — ранішнюю малітву. Але малітва можа быць і пад адкрытым небам. Перад малітвай трэба памыцца ў лазні ( пагусляваццa ), апрануцца ў новую, ва ўсякім разе ў чыстую вопратку. Перад малітвай есці не рэкамендуецца.

Пасля заканчэння ранішняй малітвы ( намазу ) над прыгатаванай для ахвяры жывелай імам або яго памочнік муэдзін ( мязім ) чытае спецыяльную малітву, а гаспадар ахвяры сам або спецыяльна наняты ім чалавек у гэты час пераразае горла ахвяры. Над ахвярай кожны мусульманін павінен прачытаць кароткую дуа ( малітву ): "Бісмі Аллагі, Аллагу Акбар", г.зн. "У імя Алаха, Алах Вялік".

Перш чым зарэзаць ахвяру, яе кладуць галавою на зямлю ў напрамку на Мекку. Жывеле павінна быць не меней года, яна павінна быць здаровай і не мець ніякіх хібаў, павінна быць чыстай ( нельга прынасіць у ахвяру жывелу, якая была ў злучцы, такая ахвяра будзе марнай і не прынятай Алахам ). Бык можа прыносіцца ў ахвяру ад аднаго, двух, трох, нават сямі чалавек, а баран -- толькі ад аднаго чалавека. Ахвяра можа быць не толькі за жывога, але і за памерлага чалавека — бацькоў, братоў і сясцер і інш. Скура жывел-ахвяр ідзе на карысць абшчыны.

Мяса вараць і ядуць за агульным сталом, за якім прысутнічае імам ці муэдзін. Часам кавалкі мяса раздаюць дамоў бедным, а калі бедных няма, то кожнай мусульманскай сям"і абшчыны. У Курбан-Байрам кожны мусульманін павінен пакаштаваць мясной стравы, пра бедных павінны паклапаціцца больш заможныя.

Свята — радасная падзея, таму святочная яда павінна быць смачнай і разнастайнай. Беларускія татары гатуюць на свята такія традыцыйныя у нас стравы як калдумы ( у некаторых мясцінах называюць гэту страву калдуны, пра тое, як яна гатуецца у вершаванай форме на польскай мове глядзіце у гэтай кніжачцы ), перакачванікі ( пірагі з мясам ці з салодкім творагам ), разнастайныя булкі, салаты з гароднiны, кампоты з ягадау і садавіны і інш.

У першы і наступныя дні свята Курбан-Байрам мусульмане наведваюць магілы сваіх родных і блізкіх ( едуць здалек, за сотні кіламетрау, бо мусульманскія могілкі-мізары нешматлікія на Беларусі ), моляцца за душы памерлых, з малітвай абходзяць вакол усяго мізара. Раздаюць міласціну састарэлым і нядужым, а тыя моляцца за душы памерлых.

Звычайна у гэта свята вернікі робяць рэчавыя ці грашовыя паднашэнні на карысць мячэці і на дабрачынныя мэты. Мусульмане наведваюць радню і раздаюць падарункі. Лічыцца, што у першую чаргу падарункі трэба даваць родным, але гасцінцы не павінны быць вельмі каштоуным і. Рабіць паднашэнні пажадана, але не абавязкова. У кожнай мусульманскай хаце на Курбан-Байрам пануе дух такой гасціннасці і шчодрасці, што любы чалавек, увайшоушы у мусульманскі дом, не пакаштавауши мусульманскай пачосткі не можа выйсці.

## ТЛУМАЧЫЦЬ ХАЛІЛЬ БАСЬЮНІ

Мустафа са Смілавічау папрасіу на старонках "Байрама" надрукаваць некаторыя Хадзісы ( выслоуі Мухамеда ), змешчаныя у кнізе Д.Е.Еремеева "Ислам. Образ жизни и стиль мышления" ( Масква, 1990 ).

Нам здаецца, што і другім мусульманам можа карысна будзе навучыцца чытаць вельмі прыгожыя і надта вытанчаныя фразы. З арабскага транскрыпцыю беларускімі літарамі зрабіу наш настаунік Халіль Басьюні.

الحسد يأكل الحسنات كما تأكل النار الحطب

АЛЬХАСАДУ ЯА"АКУЛУ АЛЬХАСАНАТІ КАМА ТА"АКУЛУ АННАРУ АЛЬХАТАБА.

Зайздрасць пажырае добрыя пачуцці, як агонь дровы.

يا أيها الناس توبوا إلى الله قبل أن تموتوا

ЯА АЙЙУХА АННАСУ ТУБУ ІЛА АЛЛАХІ КЪАБЛА АН ТАМУТУ.

Людзі! Кайцеся перад Алахам пры жыцці. Толькі пакуль вы жывыя, вы можаце раскаяцца у сваіх грахах і стаць пад апеку Алаха.

الجنة تحت أقدام الأمهات

АЛЬ-ДЖАННАТУ ТАХТА АКЪДАМІ АЛЬУММАХАТ.

Рай знаходзіцца пад нагамі матак.

طلب الحلال جهاد

١٤٠٢

ТАЛЯБУ ЭЛЬХАЛЯЛІ ДЖІХАДОН.

Патрабаваць дазволенага — свяшчэннае права.

ليس الشديد بالصرعة إنما الشديد الذي يملك نفسه عند الغضب

ЛЯЙСА АШШАХІДУ БІССУРАТІ, ІННАЛА АШШАХІДУ АЛЛАЗІ ЯМЛІКУ НАФСАХУ ІНДА АЛЬГАДАБ.

Магутны не той, хто перамагае ў барацьбе; магутны той, хто можа перамагчы свой гнеў.

طاعة الله طاعة الوالد

ТА"АТУ АЛЛАХІ, ТА"АТУ АЛЬ-УАЛІДІ.

Паслухмянасць бацьку-- такая ж добрая справа, як пакорнасць Алаху.

قل آمنت بالله فاستقم

КЪУЛЬ ААМАНТУ
БІЛЛАХІ ФАСТАКЪІМ

Скажы: я веру у Алаха
і будзь праведным.

لا يؤمن أحدكم حتى يحب لأخيه ما يحب لنفسه

ЛЯ ЮМІНУ АХАДІКОМ
ХАТТА ЮХІББУ ЛІАХІХІ
МА ЮХІББУ ЛІНАФСІХІ.

Не можа лічыцца сапраўды веруючым той, хто не любіць свайго брата-мусульманіна, як самога сябе.

التاجر الجبان محروم
والتاجر الجسور مرزوق
١٤٠٣

АТТАДЖІРУ АЛЬДЖАБАНУ
МАХРУМОН УА АТТАДЖІРУ
АЛЬДЖАСУРУ МАРЗУКЪОН.

Труслівы купец церпіць крах, смелы — працвітае.

# ДЛЯ БАБУЛЬ, ДЗЯДУЛЬ, БАЦЬКОЎ І ЎНУКАЎ

У заходніх раёнах нашай Беларусі у татарскх сем"ях захаваліся кніжачкі, па якіх мусульманскія дзеткі вучыліся чытаць святыя нашы кнігі, самыя неабходныя малітвы. Навагрудскія татары прасілі Згуртаванне татараў-мусульман на Беларусі "Аль-Кітаб" перавыдаць такі падручнік.

Перад вамі поўны тэкст Практычнага падручніка першапачатковага чытання па-арабску, які быў выданы Муфтэятам на Рэчпаспалітую Польшчу ( места Вільня, 1937 г. ).

Мы даведаліся, што адбор матэрыялу, план кнігі, графіку ажыццявілі АЛІ СМАЙКЕВІЧ і муфтэй ЯКУБ ШЫНКЕВІЧ ( глядзіце аб ім кароткія звесткі ў гэтым нумары "Байрама" ).

Прайшло многа гадоў, папера той кніжкі парыжэла, а некаторыя старонкі пагнеціліся. Добры мусульманін ІСМАІЛ АЛЕКСАНДРОВІЧ перапісаў гэты падручнік, пераклаў з польскай мовы на беларускую неабходныя тлумачэнні, сёе-тое дапоўніў.

Падрыхтаваны да друку матэрыял прачытаў ХАЛІЛЬ БАСЬЮНІ, чалавек, для якога арабская мова родная. Сярод нашых знаёмых ён найлепш ведае Іслам і заўвагі і папраўкі, якія ён зрабіў пры праглядзе старонак нашага мусульманскага падручніка былі з вялікай удзячнасцю прыняты і ўлічаны.

Гэты падручнік прызначаны для вывучэння святых нашых кніг з дапамогай настаўніка-годжы. Кожны з вас, хто ўмее чытаць, можа стаць годжай для сваіх родных, знаёмых і блізкіх. Можа не ўсё будзе адразу добра ісці, але з цягам часу паявіцца вопыт і будзе поспех.

У мусульманаў ёсць такое выслоўе: "Калі чалавек добра чытае Кур"ан — гэта пахвальна, а калі слаба чытае, але вельмі стараецца, то гэта яшчэ лепш".

Поспехаў вам, дарагія сябры!

Згуртаванне "Аль-Кітаб"

# П Р А К Т Ы Ч Н Ы
# П А Д Р Ў Ч Н І К
# П А Ч А Т К О В А Г А  Ч Ы Т А Н Я
# П А - А Р А Б С К У

С К Л А Д З Е Н Ы  Ў
В І Л Ь Н І, 1 9 3 7

بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَنِ الرَّحِيمِ

ا ب ت ث ج ح خ د ذ ر ز

س ش ص ض ط ظ ع غ ف ق

ك ل م ن و ه لا ى

---

## галосныя – حَرَكَه (хараке)

а –َ– фатха, калі пастаўлена над літарай, гучыць: اَ=а, بَ=ба

і –ِ– кясра, –"– –"– пад –"– –"–: اِ=і, بِ=бі

а –ٰ– фатха доўгая –"– –"– над –"– –"–: اٰ=а, بٰ=ба

іі –ٖ– кясра доўгая –"– –"– пад –"– –"–: اٖ=іі, بٖ=біі

у –ُ– дамма –"– –"– над –"– –"–: اُ=у, بُ=бу

У іншым выпадку, калі літара не патрабуе галоснасці, над ёй ставяць значок –ْ–, які завецца „сукун", мае форму маленькага нуля і ніколі не ўжываецца ў пачатку слова: اُرْ-ур, اَنْ-ан, اُزْرُ-узру і г.д.

## Арабскі алфавіт

| № п/п | Напісанне літар: у канцы слова | у сярэдзіне слова | у пачатку слова | самастойная літара | Назва літары | Гучанне літар |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 1. | ـا | у сярэдзіне слова не ужываецца | ا | ا | аліф | А |
| 2. | ـب | ـبـ | بـ | ب | ба | Б |
| 3. | ـت | ـتـ | تـ | ت | та | Т мякк. |
| 4. | ـث | ـثـ | ثـ | ث | са | С мякк. |
| 5. | ـج | ـجـ | جـ | ج | джым | Дж |
| 6. | ـح | ـحـ | حـ | ح | ха | Х мякк. |
| 7. | ـخ | ـخـ | خـ | خ | х̄а | Х цвёрд. |
| 8. | ـد | у сярэдзіне слова не ужываецца | не спалучаецца з наступнай літарай | د | дал | Д |
| 9. | ـذ | —"— | —"— | ذ | зал | З |
| 10. | ـر | —"— | —"— | ر | ра | Р |
| 11. | ـز | —"— | —"— | ز | за | З мякк. |
| 12. | ـس | ـسـ | سـ | س | син | С мякк. |
| 13. | ـش | ـشـ | شـ | ش | шын | Ш |
| 14. | ـص | ـصـ | صـ | ص | сад | С цвёрд. |
| 15. | ـض | ـضـ | ضـ | ض | дад | Д цвёрд. |
| 16. | ـط | ـطـ | طـ | ط | та | Т цвёрд. |
| 17. | ـظ | ـظـ | ظـ | ظ | за | З цвёрд. |
| 18. | ـع | ـعـ | عـ | ع | а̄ін | А мякк. |
| 19. | ـغ | ـغـ | غـ | غ | гаін | Г цвёрд. |
| 20. | ـف | ـفـ | فـ | ف | фа | Ф |
| 21. | ـق | ـقـ | قـ | ق | каф | К цвёрд. |
| 22. | ـک | ـکـ | کـ | (ك) ک | кяф | К мякк. |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 23. | ـل | ـلـ | لـ | ل | лям | Л мякк. |
| 24. | ـم | ـمـ | مـ | م | мім | М |
| 25. | ـن | ـنـ | نـ | ن | нун | Н |
| 26. | ـو | у сярэдзіне слова не ўжываецца | не спалучаецца з наступнай літарай | و | ваў | В (Уа) |
| 27. | ـه | ـهـ | هـ | ه | га | Г |
| 28 | ـلا | у сярэдзіне слова не ўжываецца | не спалучаецца з наступнай літарай | (لا) لا | лямаліф | Ля |
| 29 | ـى | ـيـ | يـ | ى | я | Я (Е, Й, Ю) |

---

أَ إِ أُ

---

رَ رِ رُ

أَرْ إِرْ أُرْ

---

زَ زِ زُ

أَزْ إِزْ أُزْ زَرْ زِرْ زُرْ

---

تَ تِ تُ

مَتْ مِتْ مُتْ تَمَرْ تَزِرْ

---

مَـ مِـ مُ

اَمْ اِمْ اُمْ مُرْ مُزْ رِمْ

اَمَرَ رَمْرَمْ زَمْزَمْ اَرْزَمْ

---

نَـ نِـ نُ

اَنْ اِنْ زِنْ مَنْ مِنْ نَمْ

اَنْتَ نِمْتَ اَنْتُمْ نِمْتُمْ نَزِرُ نَزِنُ

اَمَرْنَ اِمْرَنَ مَرَزْنَ مُرِزْنَ اَمَرْزَنَ

---

يَـ يِـ يُ

اَيْ اَيْمُ زَيْتُ مَيْتُ رَاْىُ رَمْىُ

يَمَنْ مَرْيَمْ مَيْزَرْ مَيْمَنْ اَيْمَنْ

اَمْرَيْنِ زَيْتَيْنِ اَيْمَيْنِ مَيْتَيْنِ

---

بَـ بِـ بُ

اَبْ اِبْنُ بِنْتُ بَيْتُ. بَيْنُ رَيْبُ

زَيْنَبْ بَرْبَرْ بَيْرَمْ اَبْرَمْ مِنْبَرْ

بِاَمْرَيْنِ ، بِبَيْتَيْنِ مِنْبَرَيْنِ زَيْنَبَيْنِ

گَ گِ گُ (ك - ک)

كَمْ كُمْ كُنْ كَيْ

بَكْرُ مَكْرُ كَرْمُ كَنْزُ تَرْكُ كَتَبَ

يَكْتُبُ تَرَكَ يَتْرُكُ كَتَبْتُمْ اَمْرُكَ اَمَرْتُكَ

كُنْتُ مُمْكِنْ

---

لَ لِ لُ

اَلْ بَلْ لَمْ لُمْ لَنْ كِلْ

نَزَلَ لَزِمَ كَمُلَ اَنْزَلَ اَلْزَمَ اَكْمَلَ

---

وَ وِ وُ

اَوْ رَوْ نَوْ لَوْ

اَوْلُ وَتَرْ وَمَنْ كَوْنُ وَلَمْ وَكَمْ

---

هَ هِ هُ (ه)

هَبْ هَمْ هَلْ هُوَ هِيَ هُمْ زَهْ

اَهَمْ وَهَبْ لَهَبْ وَهَمْ لَهُمْ بِهِمْ

مِنْهُ مِنْهُمْ اِلَيْهِ اِلَيْهِمْ اَمْهِلْهُمْ

فَ فِ فُ

فَمْ فَنْ كَفْ فَلَكْ كَفَنْ نَفَرْ

---

قَ قِ قُ

زُقْ قِنْ قُلْ اِنْقَلَبَ يَنْقَلِبُ

---

شَ شِ شُ

رَشْ بُشْ شَرْ شَقْ شَمْ شَكْ

بِشْرُ شِرْبَ شَهْرُ نَشْرُ شُكْرُ شُرْبُ

---

سَ سِ سُ

بَسْ سَمْ مُسْلِمْ سِنْ سِلْ

---

ثَ ثِ ثُ

بَثْ ثِبْ ثَمْ مِثْلُ يُكْثِرُ اِسْتَثْقَلَ

---

ضَ ضِ ضُ

ضَيْفُ عَضْلُ يَضْطَرِبُ ضَهَبُ اِسْتَضْعَفَ

ذَ ذِ ذُ

إِذْ مُذْ خُذْ عُذْ ذُبْ ذُقْ ذَرْ مُنْذُ

ذَهَلَ يَذْهَلُ بَذَلَ يَبْذُلُ أَذْهَبَ يُذْهِبُ

---

ظَ ظِ ظُ

ظَنْ ظِلْ فَظْ حَظْ عَظْ لَظْ

ظَهَرَ يَظْهَرُ نَظَرَ يَنْظُرُ ظَلَمَ يَظْلِمُ

أَظْهَرْ أَظْفَرْ مَظْهَرْ مَنْظَرْ مُظْهِرْ مُظْلِمْ

---

حَ حِ حُ

حَتَّى حِلْ حَجْ حَسَنْ حَسَبْ حَسَدْ

مُحْسِنْ يَسْتَحْسِنُ إِحْرَمْ مَحْفَلْ أَحْسَنْ

---

دَ دِ دُ

دُمْ دُلْدُلْ يَعْتَدِلُ اِسْتَرْشَدَ أَشْهَدُ

---

صَ صِ صُ

صُمْ صِفْ فَصْ صَرَفْ صَبَرْ بَصَرْ قَصَبْ

نَصَرَ يَنْصُرُ اِسْتَبْصَرَ يَسْتَبْصِرُ

عَ عِ عُ

بِعْ عَنْ عَبْعَبْ جَعْفَرْ جَعْلُ نَجَمْ

---

طَ طِ طُ

طَلْ طَئْ شَطْ بَطْ قَطْ فَقَطْ

اِصْطَبَرَ يَصْطَبِرُ اِسْتَوْطَنُ يَسْتَوْطِنُ

---

خَ خِ خُ

خَبْ خَلْ خَرَجْ خَبَرْ خَشَبْ خَلَقْ

خَيْرُ خَتْمُ خَمْرُ خَوْفُ مَخْرَجْ مُخْبِرْ

---

غَ غِ غُ

غَمْ غَبْ غِلْ غَيْرُ بَغْلُ فَرْغُ

غَبْغَبْ يَشْتَغِلُ مَغْرِبْ اِغْلِبْ يَسْتَغْفِرُ

---

جَ جِ جُ

جَمْ جَرْ جِنْ جَبْ جُلْ

تَجَوْرَبَ يَتَجَوْرَبُ اِسْتَجْلَبَ يَسْتَجْلِبُ

## ДОУГІЯ СКЛАДЫ

| أ | يِ | وُ |
|---|---|---|
| اَ اِي اُو | بَا بِي بُو | تَا تِي تُو |
| ثَا ثِي ثُو | جَا جِي جُو | حَا حِي حُو |
| خَا خِي خُو | دَا دِي دُو | ذَا ذِي ذُو |
| رَا رِي رُو | زَا زِي زُو | سَا سِي سُو |
| شَا شِي شُو | صَا صِي صُو | ضَا ضِي ضُو |
| طَا طِي طُو | ظَا ظِي ظُو | عَا عِي عُو |
| غَا غِي غُو | فَا فِي فُو | قَا قِي قُو |
| كَا كِي كُو | لَا لِي لُو | مَا مِي مُو |
| نَا نِي نُو | وَا وِي وُو | هَا هِي هُو |
| | يَا يِي يُو | |

مَالْ حَالْ نَارْ جَاهْ شَامْ سَامْ بَارِي غَالِي رَاضِي قَاضِي

هَادِي خَالِي كَلَامْ سَلَامْ حَلَالْ حَرَامْ جَلَالْ جَمَالْ كَمَالْ

اِمَامْ حِسَابْ نِظَامْ غُرَابْ غُلَامْ غُبَارْ تُرَابْ اَمْوَالْ

اَحْوَالْ اَعْمَالْ اَعْلَامْ اَمْوَاتْ اَمْرَاضْ قَوَاعِدْ عَوَامِلْ

شَوَاهِدْ جَوَاهِرْ كَوَاكِبْ مَكَاتِبْ اِكْرَامْ اِعْلَامْ اِخْلَاصْ اِظْهَارْ

اِصْلَاحْ اِفْسَادْ عَالِمْ صَابِرْ مَاهِرْ طَالِبْ فَاتِحْ صَالِحْ قَامَا

طَافَا تَابَا قُوبِي طُوفِي تُوبِي

يُقَالُ يُطَافُ تُتَابُ يَقُولُ تَقُومُ يَطُوفُ يَتُوبَانِ يَقُولُونَ

تَقُومُونَ يَطُوفُونَ تَقُولُونَ يَنْصُرُونَ تَدْخُلُونَ يَعْلَمُونَ تَعْمَلُونَ

---

## *Літары з ташдзідам,*

*або значком (яго форма — ّ), які ставіцца над літарай і таму яна атрымлівае падвоенае гучанне.*

... ـَّ ـِّ ـُّ ...

رَبَّ ← رَبْبَ ✿ رَبِّ ← رَبْبِ ✿ رَبُّ ← رَبْبُ

إِنَّ أَنَّ أَمَّ بَرَّ جَرَّ حَجَّ شَكَّ بَرُّ جَرُّ حَجُّ شَكُّ ذَمُّ

حَقُّ شَرُّ بِرُّ سِرُّ سِتُّ عِزُّ ظِلُّ حِلُّ حِسُّ حُرِّمَ رُزِّقَ

يُسِّرَ بُشِّرَ فُصِّلَ فُضِّلَ اِسْتَرَدَّ اِسْتَحَبَّ اِسْتَحَلَّ اِسْتَدَلَّ

---

## *Літары з танвінамі,* ـً ـٍ ـٌ

або с падвоенымі кароткімі галоснымі

أً ← أَنْ → ань / энь    إٍ ← إِنْ → інь    أٌ ← أُنْ → унь

أً بًا تًا ثًا جًا حًا خًا دًا ذًا رًا زًا سًا شًا صًا ضًا طًا ظًا عًا

غًا فًا قًا كًا لًا مًا نًا وًا هًا يًا

---

إٍ بٍ تٍ ثٍ جٍ حٍ خٍ دٍ ذٍ رٍ زٍ سٍ شٍ صٍ ضٍ طٍ ظٍ عٍ غٍ

فٍ قٍ كٍ لٍ مٍ نٍ وٍ هٍ يٍ

أُ بْ تْ ثْ جْ حْ خْ دْ ذْ رْ زْ شْ سْ صْ ضْ طّ ظْ
عُ غْ فْ قْ كْ لْ مْ نْ وْ هْ ى

---

ثَوْبًا ثَوْبٍ فَوْتًا فَوْتٍ فَوْتْ لَيْثًا فَوْجٍ
لَوْحٌ فَرْقًا طَوْدٍ عَوْذٌ دَوْرًا فَوْزٍ قَوْسٌ عَرْشًا
غَرْضٍ حَوْضٌ سَوْطًا غَيْظٍ شَرْعٌ فَرْغًا خَوْفٍ
لَوْنًا شَوْقٌ دَرْكًا حَوْلٍ نَوْمٌ دَلْوٍ شَرْدٌ

---

Taшdзid (تَشْدِيدْ) з танвінамі (تَنْوِينْلِى)

унь ← ـٌّ    інь ← ـٍّ    ань ← ـًّ

رَبًّا ← رَبْبَنْ ✿ رَبٍّ ← رَبْبِنْ ✿ رَبٌّ ← رَبْبُنْ
حَبًّا بَرًّا جَرًّا مَسًّا كَفًّا مَنًّا سِتٍّ سِرٍّ حِلٍّ
حِسٍّ عِزٍّ بِرٍّ دُرٌّ ذُلٌّ اُمٌّ خُفٌّ بُرٌّ كُلٌّ
مُبْيَضًّا مُسْوَدٌّ مُصْفَرٌّ مُحْمَرًّا مُخْضَرٌّ مُهْتَزًّا
مُحْتَجٍّ مُنْسَدٌّ مُضْطَرٍّ مُخْتَصٌّ مُسْتَرَدًّا
مُسْتَحِبٍّ مُسْتَحِلٌّ مُسْتَدِلًّا مُسْتَعِدٍّ

---

## Аліф з гамзай (اَلِفْ وَهَمْزَه). Знак „ء“ - гамза

ا أ ـا ـأ ئ ؤ ئـ ـئـ ء

اَمَرَ ← أَمَرَ ❀ اَخَذَ ← أَخَذَ ❀ قَرَا ← قَرَأَ

يَقْرَاُ ← يَقْرَأُ

Як вымаўляюцца словы ў канцы сказа

نَسْتَعِينُ ❀ ← نَسْتَعِينْ ❀ يُؤْمِنُونَ ❀ ← يُؤْمِنُونْ ❀

يَعْلَمُونَ ❀ ← يَعْلَمُونْ ❀ يُسْرًا ❀ ← يُسْرَا ❀

اَبَدًا ❀ ← اَبَدَا ❀ تَوَّابًا ❀ ← تَوَّابَا ❀ حَامِيَةٌ ❀ ← حَامِيَهْ ❀

Ператварэнне зычных пры вымаўленні

مِنْ مَسَدٍ ← مِمْ مَسَدٍ ❀ لَنْ نُؤْمِنَ ← لَنْنُؤْمِنَ ❀ مِنْ وَلِيٍّ ← مِوْوَلِيٍّ ❀

وَمَنْ يَعْمَلْ ← وَمَيْ يَعْمَلْ ❀ وَمَنْ لَمْ ← وَمَلْ لَمْ ❀ مِنْ رَبِّهِمْ ← مِرْرَبِّهِمْ ❀

شَيْئًا نُكْرًا ← شَيْئَنْنُكْرًا ❀ اَللّٰهُ وَاحِدٌ ← اَلْهُوْوَاحِدٌ ❀ خَيْرًا يَرَهُ ← خَيْرَيْيَرَهُ ❀

هُدًى لِلْمُتَّقِينَ ← هُدَلْ لِلْمُتَّقِينَ ❀ غَفُورٌ رَحِيمٌ ← غَفُورُرْرَحِيمٌ ❀

قُلْ رَبِّي ← قُرْرَبِّي ❀

# كَلِمَاتِ إِيمَانْ

СЛОВЫ СУТНАСЦІ ІСЛАМУ

لَآ اِلٰهَ اِلَّا اللّٰهُ مُحَمَّدٌ رَسُولُ اللّٰهِ

СЛОВЫ ВЫЗНАННЯ ВЕРЫ

اَشْهَدُ اَنْ لَآ اِلٰهَ اِلَّا اللّٰهُ وَاَشْهَدُ اَنَّ مُحَمَّدًا عَبْدُهُ وَرَسُولُهُ

СЛОВЫ АДЗІНАСЦІ АЛАХА

اَشْهَدُ اَنْ لَآ اِلٰهَ اِلَّا اللّٰهُ وَحْدَهُ لَا شَرِيكَ لَهُ لَهُ الْمُلْكُ وَلَهُ الْحَمْدُ يُحْيِي وَيُمِيتُ وَهُوَ حَيٌّ لَا يَمُوتُ بِيَدِهِ الْخَيْرُ وَهُوَ عَلٰى كُلِّ شَيْءٍ قَدِيرٌ

СЛОВЫ СУПРОЦЬ НЯВЕР"Я

اَللّٰهُمَّ اِنِّيٓ اَعُوذُ بِكَ مِنْ اَنْ اُشْرِكَ شَيْئًا وَاَنَا اَعْلَمُ وَاَسْتَغْفِرُكَ لِمَا لَآ اَعْلَمُ اِنَّكَ اَنْتَ عَلَّامُ الْغُيُوبِ

СЛОВЫ ПРАБАЧЭННЯ

كَلِمَةُ الْاِسْتِغْفَارِ

اَسْتَغْفِرُ اللّٰهَ اَسْتَغْفِرُ اللّٰهَ اَسْتَغْفِرُ اللّٰهَ تَعَالٰى مِنْ كُلِّ ذَنْبٍ اَذْنَبْتُهُ عَمْدًا اَوْ خَطَأً سِرًّا اَوْ عَلَانِيَةً وَاَتُوبُ اِلَيْهِ مِنَ الذَّنْبِ الَّذِي اَعْلَمُ وَمِنَ الذَّنْبِ الَّذِي لَآ اَعْلَمُ اِنَّكَ اَنْتَ عَلَّامُ الْغُيُوبِ

СІМВАЛЫ ВЕРЫ

❁ إيمانُ مُفَصَّلْ ❁

اٰمَنْتُ بِاللّٰهِ وَمَلٰئِكَتِهِ وَكُتُبِهِ وَرُسُلِهِ وَالْيَوْمِ الْاٰخِرِ وَالْقَدَرِ

خَيْرِهِ وَشَرِّهِ مِنَ اللّٰهِ تَعَالٰى وَالْبَعْثِ بَعْدَ الْمَوْتِ ❁

## НЕКАТОРЫЯ МАЛІТВЫ І АЯТЫ З КУР"АНА

أَعُوذُ بِاللّٰهِ مِنَ الشَّيْطَانِ الرَّجِيمِ ❁

№1 ❁ سورة الفاتحة ❁ بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❁

اَلْحَمْدُ لِلّٰهِ رَبِّ الْعٰلَمِينَ ❁ اَلرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❁ مٰلِكِ

يَوْمِ الدِّينِ ❁ إِيَّاكَ نَعْبُدُ وَإِيَّاكَ نَسْتَعِينُ ❁ اِهْدِنَا

الصِّرَاطَ الْمُسْتَقِيمَ ❁ صِرَاطَ الَّذِينَ اَنْعَمْتَ عَلَيْهِمْ ❁

غَيْرِ الْمَغْضُوبِ عَلَيْهِمْ وَلَا الضَّآلِّينَ ❁

№2 ❁ اوّل سورة البقرة ❁ بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❁

الٓمٓ ❁ ذٰلِكَ الْكِتٰبُ لَا رَيْبَ فِيهِ هُدًى لِلْمُتَّقِينَ ❁

اَلَّذِينَ يُؤْمِنُونَ بِالْغَيْبِ وَيُقِيمُونَ الصَّلٰوةَ وَمِمَّا

رَزَقْنٰهُمْ يُنْفِقُونَ ❁ وَالَّذِينَ يُؤْمِنُونَ بِمَآ أُنْزِلَ إِلَيْكَ

وَمَآ أُنْزِلَ مِنْ قَبْلِكَ وَبِالْاٰخِرَةِ هُمْ يُوقِنُونَ ❁ أُولٰئِكَ

عَلٰى هُدًى مِنْ رَبِّهِمْ وَاُولٰٓئِكَ هُمُ الْمُفْلِحُونَ ۞

№93 ۞ سورة الضحى ۞ بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ۞

وَالضُّحٰى ۞ وَالَّيْلِ اِذَا سَجٰى ۞ مَا وَدَّعَكَ رَبُّكَ وَمَا قَلٰى ۞
وَلَلْاٰخِرَةُ خَيْرٌ لَكَ مِنَ الْاُولٰى ۞ وَلَسَوْفَ يُعْطِيكَ رَبُّكَ فَتَرْضٰى ۞
اَلَمْ يَجِدْكَ يَتِيمًا فَاٰوٰى ۞ وَوَجَدَكَ ضَٓالًّا فَهَدٰى ۞ وَوَجَدَكَ
عَٓائِلًا فَاَغْنٰى ۞ فَاَمَّا الْيَتِيمَ فَلَا تَقْهَرْ ۞ وَاَمَّا السَّٓائِلَ فَلَا
تَنْهَرْ ۞ وَاَمَّا بِنِعْمَةِ رَبِّكَ فَحَدِّثْ ۞

№94 ۞ سورة الانشراح ۞ بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ۞

اَلَمْ نَشْرَحْ لَكَ صَدْرَكَ ۞ وَوَضَعْنَا عَنْكَ وِزْرَكَ ۞ اَلَّذٖٓى
اَنْقَضَ ظَهْرَكَ ۞ وَرَفَعْنَا لَكَ ذِكْرَكَ ۞ فَاِنَّ مَعَ الْعُسْرِ
يُسْرًا ۞ اِنَّ مَعَ الْعُسْرِ يُسْرًا ۞ فَاِذَا فَرَغْتَ فَانْصَبْ ۞
وَاِلٰى رَبِّكَ فَارْغَبْ ۞

№97 ۞ سورة القدر ۞ بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ۞

اِنَّٓا اَنْزَلْنَاهُ فٖى لَيْلَةِ الْقَدْرِ ۞ وَمَٓا اَدْرٰيكَ مَا لَيْلَةُ الْقَدْرِ ۞
لَيْلَةُ الْقَدْرِ خَيْرٌ مِنْ اَلْفِ شَهْرٍ ۞ تَنَزَّلُ الْمَلٰٓئِكَةُ وَالرُّوحُ
فٖيهَا بِاِذْنِ رَبِّهِمْ مِنْ كُلِّ اَمْرٍ ۞ سَلَامٌ هِىَ حَتّٰى مَطْلَعِ الْفَجْرِ ۞

N°102 ۞ سورة التكاثر ۞ بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَٰنِ الرَّحِيمِ ۞

أَلْهَىٰكُمُ التَّكَاثُرُ ۞ حَتَّىٰ زُرْتُمُ الْمَقَابِرَ ۞ كَلَّا سَوْفَ تَعْلَمُونَ ۞ ثُمَّ كَلَّا سَوْفَ تَعْلَمُونَ ۞ كَلَّا لَوْ تَعْلَمُونَ عِلْمَ الْيَقِينِ ۞ لَتَرَوُنَّ الْجَحِيمَ ۞ ثُمَّ لَتَرَوُنَّهَا عَيْنَ الْيَقِينِ ۞ ثُمَّ لَتُسْأَلُنَّ يَوْمَئِذٍ عَنِ النَّعِيمِ ۞

N°103 ۞ سورة العصر ۞ بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَٰنِ الرَّحِيمِ ۞

وَالْعَصْرِ ۞ إِنَّ الْإِنْسَانَ لَفِي خُسْرٍ ۞ إِلَّا الَّذِينَ آمَنُوا وَعَمِلُوا الصَّالِحَاتِ وَتَوَاصَوْا بِالْحَقِّ وَتَوَاصَوْا بِالصَّبْرِ ۞

N°105 ۞ سورة الفيل ۞ بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَٰنِ الرَّحِيمِ ۞

أَلَمْ تَرَ كَيْفَ فَعَلَ رَبُّكَ بِأَصْحَابِ الْفِيلِ ۞ أَلَمْ يَجْعَلْ كَيْدَهُمْ فِي تَضْلِيلٍ ۞ وَأَرْسَلَ عَلَيْهِمْ طَيْرًا أَبَابِيلَ ۞ تَرْمِيهِمْ بِحِجَارَةٍ مِنْ سِجِّيلٍ ۞ فَجَعَلَهُمْ كَعَصْفٍ مَأْكُولٍ ۞

N°106 ۞ سورة قريش ۞ بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَٰنِ الرَّحِيمِ ۞

لِإِيلَافِ قُرَيْشٍ ۞ إِيلَافِهِمْ رِحْلَةَ الشِّتَاءِ وَالصَّيْفِ ۞ فَلْيَعْبُدُوا رَبَّ هَٰذَا الْبَيْتِ ۞ الَّذِي أَطْعَمَهُمْ مِنْ جُوعٍ وَآمَنَهُمْ مِنْ خَوْفٍ ۞

N:107 ۞ سورة أرأيت ۞ بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَٰنِ الرَّحِيمِ ۞

أَرَأَيْتَ الَّذِي يُكَذِّبُ بِالدِّينِ ۞ فَذَٰلِكَ الَّذِي يَدُعُّ الْيَتِيمَ ۞ وَلَا يَحُضُّ عَلَىٰ طَعَامِ الْمِسْكِينِ ۞ فَوَيْلٌ لِّلْمُصَلِّينَ ۞ الَّذِينَ هُمْ عَن صَلَاتِهِمْ سَاهُونَ ۞ الَّذِينَ هُمْ يُرَاءُونَ ۞ وَيَمْنَعُونَ الْمَاعُونَ ۞

N:108 ۞ سورة الكوثر ۞ بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَٰنِ الرَّحِيمِ ۞

إِنَّا أَعْطَيْنَاكَ الْكَوْثَرَ ۞ فَصَلِّ لِرَبِّكَ وَانْحَرْ ۞ إِنَّ شَانِئَكَ هُوَ الْأَبْتَرُ ۞

N:109 ۞ سورة الكافرون ۞ بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَٰنِ الرَّحِيمِ ۞

قُلْ يَا أَيُّهَا الْكَافِرُونَ ۞ لَا أَعْبُدُ مَا تَعْبُدُونَ ۞ وَلَا أَنتُمْ عَابِدُونَ مَا أَعْبُدُ ۞ وَلَا أَنَا عَابِدٌ مَّا عَبَدتُّمْ ۞ وَلَا أَنتُمْ عَابِدُونَ مَا أَعْبُدُ ۞ لَكُمْ دِينُكُمْ وَلِيَ دِينِ ۞

N:110 ۞ سورة النصر ۞ بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَٰنِ الرَّحِيمِ ۞

إِذَا جَاءَ نَصْرُ اللَّهِ وَالْفَتْحُ ۞ وَرَأَيْتَ النَّاسَ يَدْخُلُونَ فِي دِينِ اللَّهِ أَفْوَاجًا ۞ فَسَبِّحْ بِحَمْدِ رَبِّكَ وَاسْتَغْفِرْهُ إِنَّهُ كَانَ تَوَّابًا ۞

N:111 ۞ سورة المسد ۞ بِسْمِ اللَّهِ الرَّحْمَٰنِ الرَّحِيمِ ۞

تَبَّتْ يَدَا أَبِي لَهَبٍ وَتَبَّ ۞ مَا أَغْنَىٰ عَنْهُ مَالُهُ وَمَا كَسَبَ ۞ سَيَصْلَىٰ نَارًا ذَاتَ لَهَبٍ ۞ وَامْرَأَتُهُ حَمَّالَةَ الْحَطَبِ ۞ فِي جِيدِهَا حَبْلٌ مِّن مَّسَدٍ ۞

N:112 ❀ سورة الاخلاص ❀ بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❀

قُلْ هُوَ اللّٰهُ اَحَدٌ ❀ اَللّٰهُ الصَّمَدُ ❀ لَمْ يَلِدْ ❀ وَلَمْ يُولَدْ ❀ وَلَمْ يَكُنْ لَهُ كُفُوًا اَحَدٌ ❀

N:113 ❀ سورة الفلق ❀ بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❀

قُلْ اَعُوذُ بِرَبِّ الْفَلَقِ ❀ مِنْ شَرِّ مَا خَلَقَ ❀ وَمِنْ شَرِّ غَاسِقٍ اِذَا وَقَبَ ❀ وَمِنْ شَرِّ النَّفّٰثٰتِ فِى الْعُقَدِ ❀ وَمِنْ شَرِّ حَاسِدٍ اِذَا حَسَدَ ❀

N:114 ❀ سورة النّاس ❀ بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❀

قُلْ اَعُوذُ بِرَبِّ النَّاسِ ❀ مَلِكِ النَّاسِ ❀ اِلٰهِ النَّاسِ ❀ مِنْ شَرِّ الْوَسْوَاسِ الْخَنَّاسِ ❀ اَلَّذِى يُوَسْوِسُ فِى صُدُورِ النَّاسِ ❀ مِنَ الْجِنَّةِ وَالنَّاسِ ❀




سُبْحَانَ اللّٰهِ وَالْحَمْدُ لِلّٰهِ وَلَآ اِلٰهَ اِلَّا اللّٰهُ وَاللّٰهُ اَكْبَرُ ❀

لَاحَوْلَ وَلَاقُوَّةَ اِلَّا بِاللّٰهِ الْعَلِىِّ الْعَظِيمِ ❀

N:2 ❀ سورة البقرة ❀ N:256 ❀ اية الكرسي ❀

اَللّٰهُ لَآ اِلٰهَ اِلَّا هُوَ الْحَىُّ الْقَيُّومُ لَا تَاْخُذُهُ سِنَةٌ وَلَا نَوْمٌ لَهُ مَا

فِي السَّمٰوَاتِ وَمَا فِي الْاَرْضِ ۗ مَنْ ذَا الَّذِي يَشْفَعُ عِنْدَهُ اِلَّا بِاِذْنِهِ ۗ يَعْلَمُ مَا بَيْنَ اَيْدِيهِمْ وَمَا خَلْفَهُمْ ۚ وَلَا يُحِيطُونَ بِشَيْءٍ مِنْ عِلْمِهِ اِلَّا بِمَا شَاءَ ۚ وَسِعَ كُرْسِيُّهُ السَّمٰوَاتِ وَالْاَرْضَ ۚ وَلَا يَؤُدُهُ حِفْظُهُمَا ۚ وَهُوَ الْعَلِيُّ الْعَظِيمُ ❁

---

بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❁

اٰمَنَ الرَّسُولُ بِمَا اُنْزِلَ اِلَيْهِ مِنْ رَبِّهِ وَالْمُؤْمِنُونَ ❁ كُلٌّ اٰمَنَ بِاللّٰهِ وَمَلٰئِكَتِهِ وَكُتُبِهِ وَرُسُلِهِ ❁ لَا نُفَرِّقُ بَيْنَ اَحَدٍ مِنْ رُسُلِهِ ❁ وَقَالُوا سَمِعْنَا وَاَطَعْنَا غُفْرَانَكَ رَبَّنَا وَاِلَيْكَ الْمَصِيرُ ❁ لَا يُكَلِّفُ اللّٰهُ نَفْسًا اِلَّا وُسْعَهَا ❁ لَهَا مَا كَسَبَتْ وَعَلَيْهَا مَا اكْتَسَبَتْ ❁ رَبَّنَا لَا تُؤَاخِذْنَا اِنْ نَسِينَا اَوْ اَخْطَاْنَا ❁ رَبَّنَا وَلَا تَحْمِلْ عَلَيْنَا اِصْرًا كَمَا حَمَلْتَهُ عَلَى الَّذِينَ مِنْ قَبْلِنَا ❁ رَبَّنَا وَلَا تُحَمِّلْنَا مَا لَا طَاقَةَ لَنَا بِهِ ❁ وَاعْفُ عَنَّا ❁ وَاغْفِرْ لَنَا ❁ وَارْحَمْنَا ❁ اَنْتَ مَوْلٰينَا ❁ فَانْصُرْنَا عَلَى الْقَوْمِ الْكَافِرِينَ ❁

---

❁ دعاى قنوت ❁ بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❁

اَللّٰهُمَّ اِنَّا نَسْتَعِينُكَ وَنَسْتَغْفِرُكَ وَنَسْتَهْدِيكَ وَنُؤْمِنُ بِكَ وَنَتُوبُ اِلَيْكَ وَنَتَوَكَّلُ عَلَيْكَ وَنُثْنِي عَلَيْكَ الْخَيْرَ كُلَّهُ نَشْكُرُكَ وَلَا نَكْفُرُكَ وَنَخْلَعُ وَنَتْرُكُ مَنْ يَفْجُرُكَ ❁ اَللّٰهُمَّ اِيَّاكَ نَعْبُدُ

وَلَكَ نُصَلِّي وَنَسْجُدُ وَإِلَيْكَ نَسْعَى وَنَحْفِدُ نَرْجُو رَحْمَتَكَ وَنَخْشَى
عَذَابَكَ إِنَّ عَذَابَكَ بِالْكُفَّارِ مُلْحِقٌ

---

بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ
سُبْحَانَكَ اللّٰهُمَّ وَبِحَمْدِكَ وَتَبَارَكَ اسْمُكَ وَتَعَالَى جَدُّكَ
وَلَا إِلٰهَ غَيْرُكَ

---

## *Дуа'а* ТАШАХХQА:

ЧАСТКА 1-ая АТТАХІЙЯТ: اَلتَّحِيَّاتُ لِلّٰهِ وَالصَّلَوَاتُ وَالطَّيِّبَاتُ
اَلسَّلَامُ عَلَيْكَ أَيُّهَا النَّبِيُّ وَرَحْمَةُ اللّٰهِ وَبَرَكَاتُهُ اَلسَّلَامُ
عَلَيْنَا وَعَلَى عِبَادِ اللّٰهِ الصَّالِحِينَ أَشْهَدُ أَنْ لَا إِلٰهَ إِلَّا اللّٰهُ وَأَشْهَدُ
أَنَّ مُحَمَّدًا عَبْدُهُ وَرَسُولُهُ

ЧАСТКА 2-я АССАЛЯТУ ЭЛЬ-ІБРАГІМІЯ: اَللّٰهُمَّ صَلِّ عَلَى سَيِّدِنَا مُحَمَّدٍ
وَعَلَى آلِ مُحَمَّدٍ كَمَا صَلَّيْتَ عَلَى إِبْرَاهِيمَ وَعَلَى آلِ إِبْرَاهِيمَ إِنَّكَ
حَمِيدٌ مَجِيدٌ وَبَارِكْ عَلَى سَيِّدِنَا مُحَمَّدٍ وَعَلَى آلِ مُحَمَّدٍ كَمَا
بَارَكْتَ عَلَى إِبْرَاهِيمَ وَعَلَى آلِ إِبْرَاهِيمَ فِي الْعَالَمِينَ رَبَّنَا
إِنَّكَ حَمِيدٌ مَجِيدٌ



بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❁

شَهْرُ رَمَضَانَ الَّذِى اُنْزِلَ فِيهِ الْقُرْاٰنُ ❁ هُدًى لِلنَّاسِ وَ
بَيِّنَاتٍ مِنَ الْهُدٰى وَالْفُرْقَانِ ❁ فَمَنْ شَهِدَ مِنْكُمُ الشَّهْرَ
فَلْيَصُمْهُ ❁ وَمَنْ كَانَ مَرِيضًا اَوْ عَلٰى سَفَرٍ فَعِدَّةٌ مِنْ اَيَّامٍ
اُخَرَ ❁ يُرِيدُ اللّٰهُ بِكُمُ الْيُسْرَ وَلَا يُرِيدُ بِكُمُ الْعُسْرَ ❁ وَ
لِتُكْمِلُوا الْعِدَّةَ وَلِتُكَبِّرُوا اللّٰهَ ❁ عَلٰى مَا هَدٰيكُمْ وَلَعَلَّكُمْ
تَشْكُرُونَ ❁ وَاِذَا سَاَلَكَ عِبَادِى عَنِّى فَاِنِّى قَرِيبٌ ❁ اُجِيبُ
دَعْوَةَ الدَّاعِ اِذَا دَعَانِ ❁ فَلْيَسْتَجِيبُوا لِى وَلْيُؤْمِنُوا بِى
لَعَلَّهُمْ يَرْشُدُونَ ❁



Для тых, хто хоча памаліцца
Назвы ( па-мясцоваму, па-турэцку і па-арабску ) і час
5-ці намазаў:

1. Сабах – صَبَاحْ – اَلْفَجْرِ – да узыходу сонца
2. Аўле – اُوكْلَه – اَلظُّهْرِ – зараз жа пасля зеніту сонца
3. Акіндэ – اِكِنْدِى – اَلْعَصْرِ – праз 2 гадзіны пасля паудня
4. Ахшам – اَخْشَامْ – اَلْمَغْرِبِ – адразу пасля заходу сонца
5. Ятцы – يَاتْسِى – اَلْعِشَاءِ – з познага вечара да ранішняга намазу

Перад пачаткам І-га намазу трэба прачытаць

نَوَيْتُ اَنْ اُصَلِّىَ لِلّٰهِ تَعَالٰى صَلٰوةَ سُنَّةِ الْفَجْرِ مُسْتَقْبِلَ الْقِبْلَةِ
اِقْتَدَيْتُ بِالْاِمَامِ – اَللّٰهُ اَكْبَرْ ❁

## КРЫМСКАЕ ХАНСТВА

Грамадскасць усяго свету, асабліва былога СССР, з вялікай трывогай сочыць за падзеямі, якія адбываюцца у выніку спрэчак пра Чарнаморскі флот і Крым. Спрачаюцца самыя магутныя у былой імперыі дзяржавы — Расія і Украіна. І зусім свядома забываюць яны, што да 1783 г. Крым меў у асноўным татарскае насельніцтва, сваю дзяржаўнасць, дынастыю ханаў Гірэяў, якая царавала больш працяглы час, чым дом Раманавых. Магутная драпежная дзяржава, якой была тады царская Расія, адна ці у хаўрусе з другімі драпежнікамі нападала на слабейшых, захоплівала іх, ці разрывала, дзяліла ахвяру са сваімі падзельшчыкамі ( як Рэчпаспалітую падзяліла з Аўстрыяй і Прусіяй ). Праўда, татарскае насельніцтва Крыма не аўтахтоннае, спрадвечнае на паўвостраве, але назавіце больш-менш значную краіну, дзе жывуць адны і тыя ж людзі спрадвеку, нават на астравах Вялікадня ( Пасхі ), што у Ціхім акіяне, была змена плямёнаў.

Рускія заваёўнікі двойчы выганялі мірнае татарскае насельніцтва з радзімых месц — напрыканцы 18 ст. і у другой палавіне 19 ст. Перад Вялікай Айчыннай вайной на Крымскім паўвостраве была татарская аўтаномія — Крымская АССР. Тут жыло каля 250 тыс. татараў і шмат іншых народаў, у тым ліку украінцы і рускія.

У маі 1944 г.,абвінавацілўшы увесь татарскі народ у здрадзе савецкай уладзе, за адны суткі увесь народ пад канвоем быў вывезены на спецпасяленне у аддаленыя раёны СССР. Ужо па дарозе і за два гады ссылкі ад голаду, холаду, хвароб ці не палавіна крымскіх татар памерла.

І цяпер, калі паклёпніцкія абвінавачанні з крымскіх татараў афіцыйна зняты, савецкія улады ( а іх спарадзіла, выгадавала і паставіла кіраваць Камуністычная партыя ) чыняць перашкоды вяртанню выгнанцаў-татар на родную зямлю. Праўда, у апошні час прынята рашэнне, што на Крыме і татарская мова, разам з украінскай і рускай мовамі прызнана дзяржавай. Але чыноўнікі-дзяржыморды "русским языком говорят, что для татар в Крыму земли нет".

Нам, беларускім татарам, балюча глядзець на крыўды, якія чыняцца над любым народам. Але крыўда крымскататарскага народа нам вельмі зразумелая. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускія татары кіраваліся указаннямі па рэлігійных справах Сімферопальскага муфтэя. У 1915 годзе некаторыя татарскія сем"і у час акупацыі кайзераўскімі войскамі часткі Беларусі знайшлі як бежан-

цы прытулак у дамах крымскіх татарау. Ды і паходжанне наша у немалой ступені звязана з Крымскім ханствам, як і паволжскай нашай прарадзімай. Вось чаму мы даволі вялікі артыкул пра Крымскае ханства друкуем у гэтым "Байраме". Каб ведаць гісторыю, перш-наперш сваю гісторыю, свае карані.

---

Феадальная дзяржава -- Крымскае ханства, якое існавала у 1443 — 1783 гадах, дасягнула свайго росквіту у 16 ст. Яно займала тэрыторыю каля 200 тыс. кв. км. Сам Крымскі паўвостраў складаў толькі невялікую частку дзяржавы, меў некалькі больш за 26 тыс. кв. км, да таго ж яго паўднева-усходняя частка непасрэдна упраўлялася Асманскай імперыяй. Крымскае ханства займала частку прычарнаморскага стэпу ад вусця Дняпра да вусця Дона, Маныча і Кубані, а ідучы уздоўж берага мора, ажно да Грузіі. У рознай ступені залежнасці ад крымскіх ханау знаходзіліся землі чэркесаў.

Пра колькасць насельніцтва на Крымскім паўвостраве у 16 — 17 стагоддзях дакладных звестак няма, па розных ацэнках яно складала ад 180 да 300 тыс. Па колькасці пераважалі татары, а у паўднёвай частцы, асабліва у прыморскай частцы ( здаўна у Кафе ) жылі італьянцы ( генуэзцы ), грэкі, армяне, караімы, яўрэі, туркі, французы і інш. На поўнач ад Перакопа жылі нагайцы.

Нягледзячы на невялікую колькасць жыхароў, Крымскае ханства у 16 ст. было адной з наймацнейшых дзяржаў Усходняй Еўропы, якое аказвала уплыў на падзеі у гэтай частцы свету.

Гісторыя Крымскага ханства да сярэдзіны 15 ст. знаходзіцца у цеснай сувязі з гісторыяй Залатой Арды. Крым лічыўся уладаннем залатаардынскіх ханаў, але ён не быў іх рэзідэнцыяй. Адзін толькі хан Узбек жыў тут некаторы час; для іншых ханаў Крым служыў часовым сховішчам у час прыдворных пераваротаў.

У 13 ст. ардынскія татары рабілі напады і рабавалі жыхароў паўвострава. У 1223 і 1229 гадах быў спустошаны горад Судак. У канцы 13 ст., у перыяд праўлення хана Тула-Бугі, вылучыўся эмір Нагай. Забіўшы хана і разбіўшы войска яго пляменніка Такты, Нагай пасылае свайго ўнука Актаджы у Крым збіраць падаткі. Але жыхары напалі на яго і забілі. Нагай, помсцячы за ўнука, спустошыў гарады Крыма. Пасля гэтага ардынцы не раз прыходзілі і рабавалі жыхароў паўвострава. У час праўлення у Залатой Ардзе хана Узбека ( 1313 — 1341 ) на Судак нападалі татарскія атрады пад кіраўніцтвам Талак-

Тэміра і Кара-Булата. Судак быў спустошаны ў 1322, 1327 і 1338 г.

Першым афіцыйна прызнаным уладаром Крыма і заснавальнікам Крымскага юрта звычайна лічыцца Арам-Цімур, які атрымаў улус ад свайго дзядзькі хана Менгу-Цімура ў другой палавіне 13 ст. Праўда, ёсць і іншы пункт гледжання гісторыкаў: Крымскі юрт утварыўся ў першай палавіне 13 ст., калі ў Крым праніклі татары, прыйшоўшыя з Батыем.

У Залатой Ардзе ў другой палавіне 13 ст. пачынаюцца міжусобіцы. Буйныя землеўладальнікі з мясцовай знаці — эміры, беі, мурзы ўступалі ў розныя групоўкі. Знаходзіліся сярод іх лоўкія верхаводы, якія карысталіся прыхільнасцю хана ці падтрымкай эміраў і станавіліся дачаснікамі ( временщиками ). Першым дакладна вядомым падобнага роду дачаснікам быў Нагай, пляменнік Берке-хана; у далейшым былі Джубан, Мамай, Ідзікі. Ардынскія міжусобіцы заўсёды адбіваліся на Крыме. Нагай спрабаваў заснаваць новую дзяржаву, зрабіць Крым галоўным цэнтрам. Частка бекаў, дапамагаўшых Нагаю, у далейшым здрадзіла яму і далучылася да яго ворага — Токта-хана. Нагай быў разбіты і неўзабаве загінуў ад рукі рускага воіна, які служыў у войску Токта-хана. Пасля гэтага Крым зноў апынуўся ў ранейшым становішчы улуса Залатой Арды. Пасаду намесніка хана Залатой Арды ў Крыме заняў Талук-Цімур, адзін з паплечнікаў Токта-хана. Ён быў на гэтай пасадзе, пакуль правіў у Залатой Ардзе хан Узбек. Пасля смерці Узбека ў Залатой Ардзе пачаліся міжусобіцы, у час якіх трон заняў адзін з сыноў Узбека — Джанібек. Гэтыя міжусобіцы садзейнічалі аслабленню ханскай улады ў Крыме. Праўленне Берды-бека, сына і пераемніка Джані-бека ў Ардзе адзначана мусульманскімі гісторыкамі як сапраўдны фінал залатаардынскай манархіі. Пасля яго смерці эміры, якія кіравалі асобнымі ўлусамі, сталі прэтэндаваць на самастойнасць. Адзін з іх — Мамай уступіў у Крым, абвясціў ханам аднаго з сыноў Узбека і рушыў на сталіцу Залатой Арды — Сарай. Гэта было каля 1374 — 1375 г. Пасля паражэння на Куліковым полі ( 1380 ) Мамай пайшоў зноў на Крым — у горад Кафу, дзе быў забіты. На ардынскім троне ў гэты час сядзеў Тахтамыш, які дасягнуў улады пры дапамозе Тамерлана. Апошні ў сваю чаргу выцесніў Тахтамыша і ўсеўся на троне. Са зменай ханаў у Залатой Ардзе змяняліся і намеснікі ў Крыме. За Талук-Цімурам быў Мелік-Тэмір, затым Зейн-

эд-Дзін Рамазан, пасля яго энергічны Катлог-Цімур. Апошні слу-жыу спачатку пад кірауніцтвам Тамерлана, а затым каля 1391 г. узяу у свае рукі прауленне Крымам. У 1398 г. войска Вялікага князя Вялікага княства Літоускага Вітаута прымусіла Катлог-Цімура уцячы з Крыма, але ён у тым жа годзе быу абвешчаны ханам Залатой Арды. З гэтай пары крымскі трон зрабіуся пробным камянём для вызначэння моцы той або іншай феадальнай групоукі. Ханы змяняліся безупынна і устанавіць паступовасць гэтых змен няма ніякай мажлівасці. Толькі з 15 ст., з усталяваннем на Крыме дынастыі Гірэяу ( у апошні час у гістарычнай літаратуры, асабліва крымскататарскіх гісторыкау гэту дынастыю называюць Герэямі ), мяняецца характар гісторыі Крымскага юрта.

Дзяржауная арганізацыя гэтага юрта да 15 ст. была, верагодна, калькай з арганізацыі Залатой Арды. На чале юрта стаяу намеснік, пазней крымскі хан. Ён быу галоуным начальнікам ( кірауніком ) як у ваенных, так і у грамадзянскіх справах. Пасля намесніка найбольшае значэнне мелі чыны ваенныя: аглак -- галоуны начальнік аб"яднаных ваенных сіл у час набегау; туман — начальнік 10-тысячнага войска; міннік -- тысячы; юз ( юзбашы ) -- сотні; он ( онбашы )-- дзесятка. Пра усе грамадзянскія чыны у ханстве глядзіце ніжэй. Двор крымскага намесніка меу таксама цэлы штат конюхау, сакольнікау, лоучых і да т.п. Існавала сістэма падаткау, але памеры іх невядомыя. Падаткі былі наступныя: падушны, ясачны аброк, бурновая тамга, амбарны падатак і да т.п. Збірауся таксама падатак з заваяваных народау. Падаткі збіралі баскак або бакаул, мытнік, раскладчык падушных, застаушчык, мастаушчык, базарны паборшчык і інш. Суд і расправа у Крыме да 15 ст. невядомыя. Саслоуяу было чатыры: дваранскае, духоунае, народ і рабы.

Сярод дваранства вылучаюцца дзве групы: урадавая, створаная дзяржавай, і родавая. Першая асаблівага значэння не мела, другая кіравала справамі Крымскага юрта.

Духоунае саслоуе узнікла у Крыме у 13 ст. з прыняццем татарамі Ісламу. На чале духавенства стаяу муфтэй, які займау другое месца пасля намесніка ( пазней хана ); затым ішоу казы або духоуны суддзя, які разглядау і некаторыя грамадзянскія справы; мудэрсы загадвалі школамі, шэйхі — манастырамі, софу былі манахамі-пустэльнікамі.

Народ татарскі быў свабодны, рабамі ў Крыме былі ваеннапалонныя не татарскай нацыянальнасці. Рэлігія крымскіх татараў была спачатку паганскай. Мусульманства пачынае пранікаць з 13 ст., але панаваць пачынае толькі з другой палавіны 14 ст.

З першай палавіны 15 ст., з паяўленнем на крымскім троне дынастыі Гірэяў, пачынаецца новая эпоха ў жыцці Крыма. Першым ханам з гэтай дынастыі быў Хаджы-Гірэй. Ён захапіў уладу пры падтрымцы вялікага князя літоўскага Казіміра Ягайлавіча і татарскіх крымскіх князёў з роду Шырын у 1443 г. Як даказалі польскія гісторыкі, Хаджы-Гірэй нарадзіўся ў Вялікім княстве Літоўскім, у Троках ( цяпер Тракай ). Дзейнасць Хаджы-Гірэя была накіравана на ўмацаванне сваёй улады і дынастыі ў Крыме і на абарону сваіх уладанняў ад іншых прэтэндэнтаў на трон. Ён перамог хана Залатой Арды Сеід-Ахмеда, які ратуючыся ўцёк у Вільню, пазней быў пасялены ў ковенскім замку, дзе і памёр. З польскім каралем Казімірам Хаджы-Гірэй быў у сяброўскіх адносінах. У яго даволі мірныя адносіны з Масквой. Ён клапаціўся і пра тое, каб забяспечыць сваю незалежнасць ад Турцыі. Хаджы-Гірэй перанёс сталіцу з Кыркіча ў Бахчы-Сарай. Памёр у 1466 г. На трон пасля працяглай барацьбы са сваім братам Нур Дэўлетам і Айдарам уступіў Менглі-Гірэй — адзін з васьмі сыноў Хаджы-Гірэя. Пацярпеўшы паражэнне ў барацьбе за трон Нур Дэўлет і Айдар у 1478 годзе ўцяклі ў Літву, але ужо ў пачатку 1470 года паехалі ў Маскву. Канчатковаму замацаванню Менглі-Гірэю на троне садзейнічалі туркі, якія пасля заваявання Візантыі асадзілі ў 1475 годзе генуэзскія крэпасці ў Крыме. Менглі-Гірэй дапамагаў пры гэтым султану Мехмеду II Фаціху. Крымскае ханства з гэтага часу становіцца васалам Турцыі. У выніку перамоваў бакі прышлі да пагаднення, што турэцкі султан будзе прызначаць крымскіх ханаў, але выключна з нашчадкаў Гірэяў, пры гэтым не будзе караць смерцю нікога з гэтага роду. Турцыя завалодала таксама самымі важнымі стратэгічнымі пунктамі ў Крыме— Гюзлеў, Балаклава, Керч і галоўнае — Кафай.

Менглі-Гірэй увёў званне калгі або віцэ-хана — наступніка трона. На гэту пасаду прызначыў свайго сына Мехмед-Гірэя, але пасля смерці апошняга крымскія ханы ужо прызначаліся турэцкім султанам. Адносна смерці Менглі-Гірэя існуюць разнагалоссі: памёр ён, верагодна, у 1515 годзе. Пераемнік яго Мехмед-Гірэй ( 1514 — 1524 ) быў забіты у час паходу на нагайцаў, якія нярэдка бунтаваліся. На месца хана прызначаны Саадэт-Гірэй, якому

прышлося весці упартую барацьбу з сынам Мехмеда -- Іслам-Гірэем. Калі Саадэт-Гірэй добраахвотна пакінуў трон, на яго месца Стамбулам прызначаны Сахыб-Гірэй, а Іслам-Гірэй стаў калгою. Паміж імі хутка пачалася барацьба, якая скончылася забойствам у 1537 годзе Іслам-Гірэя. У 1551 г. быў забіты і Сахыб-Гірэй, месца якога заняў Дэўлет-Гірэй ( 1551 — 1577 ), а пасля яго правіў Мехмед-Гірэй II Тлусты. Апошні, не здолеўшы прызначыць свайго сына калгою, утварыў новую пасаду другога пераемніка, які атрымаў званне нурэддзіна ( нур-эд-дзіна )і атрымліваў вялікія грашовыя сумы з ханскіх прыбыткаў. Гэта пастанова хана была зацверджана і Стамбулам. Мехмед-Гірэй II быў задушаны сваім братам калгою Алі-Гірэем. Далей крымскімі ханамі былі Іслам-Гірэй ( 1584 — 1588 ) і Газі-Гірэй II Бора, г.зн. Бура ( 1588 — 1608 ). Апошні імкнуўся да самастойнасці і зрабіў яшчэ адну спробу змяніць прынцып родавага старшынства. Пагэтаму калгою ён зрабіў не брата, а сына свайго Тахтамыша, які пасля смерці бацькі і быў абвешчаны ханам, але Турцыя не зацвердзіла гэтага выбару крымскіх эміраў і Тахтамыш неўзабаве быў забіты сваімі праціўнікамі — Селямет-Гірэем і Мехмед-Гірэем, з каторых першы стаў ханам ( 1608 — 1610 ), а другі калгою. Мехмед падняў мяцеж супроць хана, але мусіў уцячы з Крыма. Таму, калі памёр Селямет-Гірэй, ханам стаў Джаныбек-Гірэй II ( 1610 — 1623 і 1627 — 1629 ). Першая палавіна гэтага царавання прайшла у безупыннай і бязлітаснай барацьбе з Мехмед-Гірэем і яго братам Шагін-Гірэем. У сакавіку 1623 г. Джаныбек быў адпраўлены на востраў Родас у ганаровую высылку, а на яго месца ханам быў пасаджаны Мехмед-Гірэй III ( 1623 — 1627 ), а калгою Шагін-Гірэй. Новы хан неўзабаве праявіў непаслухмянасць у адносінах да Турцыі, за што і быў звергнуты; на трон сеў зноў Джаныбек-Гірэй II, якому канчаткова ўдалося замацавацца толькі пасля барацьбы з прэтэндэнтамі. Але і ён быў у 1629 г. звергнуты сынам Газі-Гірэя — Інайет-Гірэй-ханам ( 1629 -- 1637 ). Малодшы брат яго Хусам-Гірэй быў прызначаны калгою, а другі брат Саадэт-Гірэй — нурэддзінам. Задачай новага хана была незалежнасць ад Турцыі, што і прывяло яго да зняркэння, а затым і забойства. На месца хана быў прызначаны сын Селямет-Гірэя — Багадыр-Гірэй I ( 1637 — 1644 ) па празванню "Рэзмі". Ен займаўся больш складаннем вершаў, каламбураў і зборам непамерна вялікіх падаткаў. Пасля яго смерці трон дастаўся Мехмед-Гірэю IV ( 1641 — 1644 ), малодшаму сыну памерлага. З 1644 да 1654 года правіў

Іслам-Гірэй Ш. Яго праўленне супадала з часам Б.Хмяльніцкага і далучэннем Украіны да Расіі. Адносіны з казакамі і Масквою займаюць важнае месца ў цараванні Іслам-Гірэя. У адносінах да Турцыі ён трымаўся вельмі незалежна і яго цараванне нагадвае праўленне аднаго з лепшых папярэднікаў — Газі-Гірэя П Бура. Як толькі ў Турцыі атрымалі вестку аб смерці Іслам-Гірэя Ш,крымскім ханам быў абвешчаны Мехмед-Гірэй ІУ ( 1654 — 1666 ), сасланы на востраў Родас і аднойчы ўжо правіўшы няўдала на Крыме. Ён не карыстаўся аўтарытэтам сярод сваіх падданых, а таму не знайшоў у іх падтрымкі, калі спрабаваў супрацiўляцца распараджэнням Стамбула. Памёр у Дагестане ў 1674 г. Пераемнікам Мехмед-Гірэя ІУ быў прызначаны Адзіль-Гірэй І ( 1666 — 1671 ), прадстаўнік бакавой лініі Гірэяў, які з гэтай прычыны быў варожа сустрэты крымскімі вяльможамі. Урэшце гэта і прывяло яго да падзення. Ён быў высланы на востраў Родас, а ханам стаў сын Багадыр-Гірэя — Селім-Гірэй ( 1671 — 1678 ). Сучаснікі сведчаць аб тым, што ён быў вельмі разумным і добрым чалавекам, пазбаўленым,у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, непамернага ўладалюбства. Пасля няўдалай вайны з Масквой у 1677 г. ён быў высланы на Родас, а месца хана заняў Мюрад-Гірэй ( 1678 — 1683 ), якому прыйшлося працягваць вайну з Масквой. Пасля вайны Турцыі з немцамі, якая скончылася паражэннем турак пад Венай ( 1683 ), Стамбул абвінаваціў у паражэнні нерашучасць у дзеяннях Мюрад-Гірэя і апошні быў пазбаўлены трона. Гэтаму садзейнічала таксама тое, што хан звяртаў больш увагі на інтарэсы Крыма, чым на інтарэсы Турцыі. На трон быў прызначаны Хаджы-Гірэй, асоба вельмі непапулярная сярод крымскіх вяльможаў. Апошнія паднялі паўстанне і Хаджы-Гірэй вымушаны быў ратавацца ўцёкамі, прабыўшы на троне, такім чынам, з кастрычніка 1683 г. па чэрвень 1684 г. Крымскія вяльможы запатрабавалі пасля гэтага сабе у ханы Селім-Гірэя І, які ў другі раз правіў з 1684 па 1691 г. Згода султана на патрабаванні вяльмож тлумачыцца тагачасным складаным становішчам у Турцыі, і Селім-Гірэй гэта добра разумеў, таксама як і пагрозу, якая насоўвалася на Крым з боку Масквы. Супроць рускіх ён спрабаваў умацаваць свае граніцы, у адносінах жа да Турцыі ён трымаў сябе даволі незалежна, абапіраючыся на сімпатыі народа. Таму, як толькі ён адчуў незадавальненне ім у войску, ён адрокся ад трона на карысць новага энергічнага хана Саадэт-Гірэя П. Апошні ня-

доўга пратрымаўся на троне ( сакавік — снежань 1691 ), на яго месца быў прызначаны калга Селямет-Гірэй ( студзень-кастрычнік 1692 ) — унук Селямет-Гірэя, чалавек, які быў пазбаўлены ўсякай маральнасці, які дзеля нажывы нічога не цураўся. Крымскія татары былі ім вельмі незадаволены і гэта прывяло да яго звяржэння. Ханам трэці раз стаў Селім-Гірэй I ( 1692 — 1699 ), які здзейсніў падарожжа ў Мекку і атрымаў званне хаджы або эльхаджы. У перыяд праўлення Эльхадж Селім-Гірэя Пётр I ажыццявіў Азоўскія паходы. Пасля заключэння Карлавіцкага міру з Расіяй у 1698 г. Эльхадж Селім-Гірэй адрокся ад ханства, параіўшы прызначыць на пасаду свайго сына Дэўлет-Гірэя II ( 1669 — 1705 ). Калгою стаў брат хана Шагін-Гірэй, а нурэддзінам другі брат — Саадэт-Гірэй. Пасля смерці Шагін-Гірэя калгою быў прызначаны Шагбаз-Гірэй, які неўзабаве быў забіты прыхільнікамі Саадэт-Гірэя. Супроць хана быў узняты мяцеж, які Дэўлет-Гірэй задушыў з вялікай цяжкасцю. Затым успыхнуў нагайскі бунт. Крыму пагражалі рускія. Дэўлет-Гірэй II атрымаў адстаўку, а на пасаду хана ў чацверты раз быў прызначаны Эльхадж Селім-Гірэй I ( 1703 — 1704 ). Апошняе цараванне 70-гадовага Эльхадж Селім-Гірэя I было кароткім і нічым не вызначылася. Пасля смерці Эльхаджа ўлада ў Крыме засяродзілася ў руках яго нашчадкаў. Ханам зноў стаў Дэўлет-Гірэй, але ў тым жа 1704 г. яго змяніў малодшы брат Газі-Гірэй. За няўдалую параду султану пачаць вайну з Расіяй Газі-Гірэй зноў быў зменены Дэўлет-Гірэем, але і ён у тым жа годзе быў звергнуты і высланы на Родас. Ханам быў прызначаны Каплан-Гірэй. Апошні быў таксама звергнуты за няўдалую параду пачаць вайну з Расіяй. Зноў на трон быў узведзены Дэўлет-Гірэй.

Дэўлет-Гірэй адбіў наступленне войска Пятра I на Турцыю і падвёў пад разгром рускую армію пад Прутам ( 1711 ). Цар з усёй арміяй трапіў у палон, што ў гісторыі крайне рэдка бывае з галоўнакамандуючым. Але ў час перамоваў камандуючы аб"яднанай турэцка-татарскай арміяй Бальтаджы Мехмет Паша праявіў слабасць у адносінах да Кацярыны — жонкі Пятра I, атрымаў багатыя падарункі і вызваліў цара, заключыўшы з ім мір. Гэты мір быў заключаны насуперак пратэсту Дэўлет-Гірэю II, каралю Швецыі Карлу XII і гетману Украіны Мазепе. Абураны Дэўлет-Гірэй II запатрабаваў ад султана пакараць Бальтаджы. Апошні быў павешаны. Але не ўтрымаўся і Дэўлет-Гірэй II. Ён быў заменены Каплан-Гірэем за тое, што вайна

з Пятром I скончылася наўдала. Каплан-Гірэя змяніў Саадэт-Гірэй. Супроць Саадэт-Гірэя, а таксама супроць яго наступніка Мехмед-Гірэя падняў паўстанне шырынскі бей, і Саадэт і Мехмед вымушаны былі ўцякаць з Крыма. Зноў на троне з"явіўся Дэўлет-Гірэй. Але калі ён прагневаў турэцкага пасланніка, хана замяніў Менглі-Гірэй ( 1725 — 1730 ). Мяцеж мурзаў супроць Менглі-Гірэя прывёў да улады Каплан-Гірэя ( 1730 — 1736 ), а калі адбылося пры ім нашэсце рускага войска пад началам Мініха ( 1736 ), ханам зноў прызначылі Менглі-Гірэя.

У 1737 годзе Мініх зноў напаў на Крым і спустошыў яго. Былі зруйнаваны Бахчысарай і Карасу-Базар, спалена больш за тысячу татарскіх вёсак, знішчаны ўвесь ураджай на палетках. Менглі-Гірэй хацеў адплаціць Расіі, але яго паход у 1738 годзе быў няўдалым. У 1741 годзе на трон быў узведзены Селім-Гірэй, але у выніку змовы мурзаў ён зноў уступіў ханскую пасаду Каплан-Гірэю. Затым ханам быў зноў Селім-Гірэй, а пасля яго, на працягу двух гадоў Арслан-Гірэй ( 1753 — 1755 ). У 1755 годзе ханам становіцца Алім-Гірэй, якога мурзы з дапамогай нагайцаў неўзабаве пазбавілі трона. Ханам стаў Керым-Гірэй, які паводле сведчанняў сучаснікаў быў найбольш адукаваным з ханаў. Яго замяніў пляменнік Дэўлет-Гірэя, але і ён неўзабаве быў звергнуты і месца хана зноў заняў Селім-Гірэй. У перыяд руска-турэцкай вайны ( 1768 — 1774 ) Крым зноў падвергся нашэсцю рускіх войск. У 1771 рускія пад кіраўніцтвам князя Далгарукава зруйнавалі усе гарады Крыма, загінула больш за 33 тысячы мірнага насельніцтва. Усё гэта прывяло да падзення хана Селім-Гірэя. Курултай выбраў ханам Шагін-Гірэя, які абвясціў незалежнасць Крыма ад Турцыі і уступіў Расіі Керч, Енікале і Кінбурн. Гэта вялікая уступка, фактычна капітуляцыя перад Расіяй, не падабалася многім татарам і ён быў пазбаўлены трона. Ханам быў выбраны яго брат Дэўлет-Гірэй. Але пасля Кучук-Кайнарджыйскага міру ( 1774 ) ён зноў становіцца ханам і атрымлівае дадаткова паўнамоцтвы вялікага халіфа. Турэцкі султан прыслаў яму усе знакі ханскай годнасці і прасіў усенародна маліцца за яго ( хана ). Шагін-Гірэй быў апошнім ханам Крыма. Пры ім Крымскае ханства пала і 9 красавіка 1783 г. Крым быў далучаны да Расіі. Хан быў высланы спачатку ў Керч, а затым у Варонеж, дзе і памёр. Турцыя прызнала далучэнне Крыма да Расіі у снежні 1792 г, падпісаўшы мір у Ясах.

Дзяржаўны лад Крымскага ханства на працягу 15 — 18 стагоддзяў значна змяніўся ў параўнанні з папярэднім перыядам. Гэтыя перамены адбываліся пад уплывам пераходу татар ад качавога да аселага быту. Асобныя крымскія роды сталі буйнымі зямельнымі уладальнікамі. З гэтых родаў галоўнае значэнне мелі пяць: Шырын, Барын, Кулук, Сулеш і Мансур. З 16 ст. менавіта яны правяць Крымскім юртам. Аб гэтым паведамляе ў 1506 г. і Менглі-Гірэй у сваім ярлыку да літоўскага князя Жыгімонта. Кожны з крымскіх родаў меў свае дакладна размежаваныя уладанні, якія насілі назву бейлык, г.зн. княства. У кожнага бея была свая сталіца, свой двор, свой калга і нурэддзін, выбраныя з дваран сваей жа фаміліі. Беі мелі права уступаць у шлюб з ханскімі дочкамі, насіць бараду, як і хан, пасылаць сваіх паслоў да замежных уладароў за падарункамі. Беі часта вялі паміж сабою войны, самастойна рабілі набегі на чужыя землі. Пяць крымскіх родаў лічыліся прадстаўнікамі вышэйшага саслоўя. Кожны глава роду ў сваім бейлыку быў неабмежаваным дэспатам, у руках якога знаходзіліся адміністрацыя і суд.

Залежнасць беяў ад хана выражалася ў абавязку іх пастаўляць войска і несці пэўную долю ваенных расходаў. Для вырашэння пытання аб вайне хан павінен быў склікаць савет пяці беяў, якія таксама маглі пасылаць замест сябе паслоў. Улада хана была, такім чынам, абмежавана алігархіяй, якая нярэдка пераходзіла ў ахлакратыю. Хан не меў права збіраць падаткі ні з беяў, ні з іх васалаў; нават іншаземцы, якія жылі на землях беяў, не плацілі хану падушнага падатку. Як вярхоўны кіраўнік ханства, хан атрымліваў толькі наступныя даходы: пенсію ад Турцыі, мытны збор, саляны збор ( саляныя промыслы былі ўласнасцю хана ), грашовыя падаткі ад правіцеляў Буджака і Каўшан, ад нагайскіх сераскіраў і мядовыя грошы — усяго на суму каля 120 тыс. піястраў, не лічачы прыбыткаў ад зямельных уладанняў хана і падарункаў, якія ён атрымліваў ад замежных дзяржаў.

Пасля смерці бея уладаром бейлыка станавіўся калга — як правіла старэйшы сын і толькі пасля смерці ўсіх сыноў бея бейлык пераходзіў да яго старэйшага ўнука. Астатняе пакаленне бея і яго пабочнае патомства складалі дваранства пад назваю "эмір-задэ", ад якога пайшла скажоная назва мірза, мурза. Былі два разрады мурз: прамыя нашчадкі беяў, якія жылі ў межах бейлыка, і затым татарская шляхта, якая страціла ўжо сваякія сувязі з родапачынальнікам бейлыка, або мела званне, пажалаванае ханам. Акрамя таго, было яшчэ і ніжэйшае дваранства — "капыкуль" ( рабы дзвя

рэй ), якое складалася з янычар. Іх цуралася вышэйшае дваранства і не ўступала з імі ні ў якія зносіны. Выключэнне з гэтага складалі. толькі тыя, якія карысталіся асаблівай прыхільнасцю хана. Дваранства было пераважна саслоўем ваенным. Гэта залежала ад характару народа, які быў пастаянна ўзброеным войскам, гатовым да вайны і набегаў. У мірны час дваране жылі звычайна ў сваіх маёнтках і бавілі вольны час у розных пацехах, паляванні і ўзаемных візітах.

Духоўнае або вучонае саслоўе ( улема ) займаліся рэлігійнымі справамі і адукацыяй народа, складалі і абмяркоўвалі дзяржаўныя законапраекты. На чале духоўнага саслоўя стаяў муфтэй ( у рускай літаратуры — муфцій ), які карыстаўся асобай павагай і займаў другое месца пасля хана. Духавенства складалася з чатырох фамілій, якія валодалі зямельнай уласнасцю і асобным манастыром, настаяцелем ( шэйхам ) якога быў старэйшы з роду. Да духавенства ( улемаў ) належалі затым: імамы ( кіраўнікі мусульманскіх прыходаў ), мулы ( настаўнікі рэлігіі ), муэдзіны ( мязімы, памочнікі імамаў ) і наогул усе духоўныя асобы.

Татарскае мусульманскае духавенства жыло за кошт даходаў з зямлі, прыпісанай да мячэцяў ( вакуфаў ), а таксама падарункаў багатых мусульман.

Большасць насельніцтва Крыма складаў просты народ. Ён быў вольны, хоць эканамічнае становішча яго было вельмі цяжкім, таму што ханы распараджаліся здабыткамі яго працы, абкладалі падаткамі, на ім ляжалі цяжкія павіннасці на карысць дзяржавы.

Сістэма праўлення ў Крымскім ханстве складалася з вялікай колькасці розных чыноўнікаў і каштавала вельмі дорага.

1. Вярхоўным правіцелем дзяржавы быў хан. Ён павінен быў паходзіць з дынастыі Гірэяў. Спачатку гэта была выбарная пасада, але з умацненнем залежнасці ад Турцыі хан назначаўся султанам, прычым родавага старшынства звычайна не прытрымліваліся.

2. Пасля хана ішоў калга — віцэ-хан, які меў права на трон, але гэта не заўседы выконвалася. Калга камандаваў войскам, у далейшым толькі большага правага крыла збройнай сілы і правіцель-адміністратар усходняй часткі ханства.

3. Нурэддзін — другі пасля калгі віцэ-хан, камандуючы левага, менш шматлікага крыла збройных сіл і правіцель-адміністратар левай, заходняй часткі ханства.

4. Султаны -- ханскія сыны, якія ў залежнасці ад асабістых поспехаў займалі адпаведныя пасады ў войску як крымскіх, так і нагайскіх татараў.

5. Маці, жонкі і дочкі хана, калгі і нурэддзіна. Яны мелі свой двор і атрымлівалі штогадовую пенсію грашыма.

6. Хан-агасы. Абавязкі яго дакладна не высветлены і адносіліся, відаць, да грамадзянскага праўлення.

7. Дэфтэрдар-ага -- дзяржаўны кантралёр.

8. Тат-агасы -- упраўляючы землямі, што складалі надзел хана і былі заселены хрысціянамі.

9. Хазнадар-ага -- дзяржаўны казначэй.

10. Актачы-бей -- шталмейстер ( прыдворны канюшы ).

11. Кіларджы-башы -- гофмаршал хана.

12. Капуджы-башы -- ханскі ад"ютант.

13. Капуджы мер-ках"ясы--памочнік ханскага ад"ютанта.

14. Селердар-ага -- начальнік мечаносцаў.

15. Кулар-агасы -- начальнік прыдворных ніжэйшых чыноў.

16. Дыван-эфендзі -- сакратар замежных спраў.

17. Сыр-кятэпы -- сакратар унутраных спраў.

18. Хазнэ-кятэпы-- сакратар дзяржаўнага казначэйства.

19. Зарыф-кятэпы -- начальнік манетнага двара.

20. Аталык -- выхавацель ханскіх дзяцей. Часам здаралася, што ён быў даволі важнай асобай у дзяржаве.

21. Хан-кул-ага -- начальнік ханскіх рабоў.

22. Байрам-ага -- галоўны распарадзіцель ханскіх баляў.

23. Балчы-башы -- намеснік галоўнага распарадзіцеля ханскіх баляў.

24. Хапу-агасы -- ахоўнік дзвярэй ханскага палаца. Знаходзіўся ў падпарадкаванні ханскага ад"ютанта ( капуджы-башы ).

25. Серрач-башы -- адказны за асвятленне ханскага палаца.

26. Чашанпр-башы -- лейб-кухар.

27. Ашы-башы -- краўчы (распарадчык урачыстых абедаў у хана).

28. Хадым-ага -- начальнік над служачымі пры ханскім палацы.

29. Ігіт-ага -- старэйшы над пажамі.

30. Начальнік янычараў.

31. Ханскі казначэй.

32. Ханскі пісар.

33. Землямер ды іншыя.

Усе гэтыя службовыя асобы належалі да цэнтральнага ўрада або да двара хана і атрымлівалі падарункі ад замежных уладароў. Што ж датычыцца суда, то ён знаходзіўся ў руках начальнікаў бейлыкаў, таму апошнія называліся яшчэ кадылыкамі. Кадылыкаў у Крыме было 48 і аб"ядноўвалі яны 1604 вёскі. Бей атрымліваў грамату на званне кады ( кадзі ) ад кады-аскера і юрыспрудэнцыя яго не падпарадкоўвалася хану. Дваранства мела, відаць, свае асобныя асызныя суды, рашэнні якіх зацвярджаліся кады--аскерам, які кіраваўся пры гэтым парадамі муфтэя. Асобныя суды мела мусульманскае духавенства, іншаверцы. Хан прызначаў кадыеў ва ўласным кадылыку, турэцкі султан -- у чатырох сваіх кадылыках -- Кафе, Судаку, Мангуце і Енікале.

З узнікненнем гарадоў паяўляюцца і асобныя гарадскія суддзі-шэгер-кады, якія назначаліся кады-аскерам. На судзе гэтых шэгер-кады, верагодна ў якасці наглядчыка, заўсёды прысутнічаў памочнік кады-аскера -- наіб. Усе астатнія справы, вылучаныя з вядзення гэтых судоў, вырашаліся ў дзяржаўным савеце або дыване. Апошні меў самы рознахарактарны склад: калга, нурэддзін, шырын-бей, муфтэй, кіраўнікі пяці родаў, кады-аскер, ор-бей, сераскіры трох нагайскіх ордаў, хазнадар-ага, дэфтэдар-ага і інш. Акрамя гэтага, у пасяджэннях прымалі ўдзел таксама прадстаўнікі кожнай галіны пяці родаў. Бей, які не мог прыйсці на паседжанне ( дыван ), прысылаў свайго прадстаўніка. На паседжаннях дывана вырашаліся ўсе справы ўнутранага кіравання, аб"яўлення вайны, набору войска, арганізацыі паходаў і г.д. Судзілі ў адпаведнасці з свяшчэннай кнігай мусульман — Кур"анам.

Крымінальнымі злачынствамі ў Крыме лічыліся: адступленне ад веры, пралюбадзейства, рабаванне, забойства, кража і п"янства. Паводле Кур"ана альбо шарыята усе гэтыя злачынствы караліся вельмі сурова. Пакаранне злачынцы дазвалялася істцу, які мог прымяніць помсту ( "вока за вока" ), або абмежавацца штрафам. Палітычных злачынстваў у Крыме, дзе прадстаўнікі вышэйшай улады пастаянна змяняліся, амаль што не было.

Парадак атрымання спадчыны ў Крыме, пры існаванні мнагажонства, быў вельмі складаным. Шлюб быў простым дагаворам, які заключалі па-за мячэццю. Забяспечваўся шлюб спецыяльным укладам - "магар", які на выпадак скасавання шлюбу выдаваўся пацярпелай старане. Муж прыносіў жонцы калым, жонка — пасаг. Гэта ўзаемнае абдорванне называлася нікях. Шлюб скасоўваўся рэдка. У вы-

шэйшых саслоўях існавала затворніцтва жанчын, простыя жанчыны карысталіся большай свабодай.

Аб старажытнай крымскататарскай адукацыі і культуры дакладных звестак няма. Менглі-Гірэй пабудаваў у 1500 годзе вышэйшае духоўнае вучылішча -- медрэсе, адкуль выйшла шмат вучоных і духоўнікаў. Галоўнымі прадметамі, якія выкладаліся ў медрэсе, былі арабская мова і арабская філасофія, якія ў татараў былі у вялікай пашане. З татарскіх філосафаў XVII ст. вядомы Абдул-Азіз-эфендзі. Гістарычная літаратура бедная. З гісторыкаў вядомы: Рамал-Хаджа, Магамет-Рыза і ананімны аўтар гісторыі крымскіх ханаў. Захаваліся яшчэ імены гісторыкаў: кафскага пашы Абдулы ( каля 1600 г. ), Хейр-Задэ-эфендзі і Абдул-велі-эфендзі у другой палавіне 17 ст.

Мастацкая літаратура была больш развіта. Гісторык Магамет-Рыза у сваім творы "Сем планет" прыводзіць узоры паэтычнай творчасці Батыр-Гірэя, Газы-Гірэя, Сода-Гірэя і інш. Крымскія татары пачалі рана запісваць народныя пнсні. Захаваліся зборнікі песен -- джонкі. На татараў аказала ўплыў турэцкая паэзія. У Крыме былі распаўсюджаны шматлікія казкі.

Навука была прадстаўлена галоўным чынам багаслоўскай юрыспрудэнцыяй. Любілі татары займацца астраноміяй у спалучэнні з астралогіяй ( так было і ў заходнееўрапейскіх краінах ).

Татарская музыка складалася з дасула ( від барабана ), дарэ ( бубна ) і зурны ( род кларнета ). Жывапіс і скульптура, як паганскія заняткі, былі забаронены мусульманскай рэлігіяй.

Была развіта архітэктура, аб чым сведчыць цудоўны бахчысарайскі палац.

Развіццё сельскай гаспадаркі і рамёслаў супадае з пачаткам аселага жыцця і заснаваннем у крымскіх татараў гарадоў. Пры татарах у Крыме былі закладзены шматлікія сады, вінаграднікі з рознымі гатункамі вінаграду. Вырошчвалі татары проса, ячмень, пшаніцу. Займаліся таксама пчалярствам, шаўкаводствам, вырошчвалі тытунь.

У крымскіх татараў была добра развіта жывёлагадоўля, найперш конегадоўля. Называюць лічбу 200 тыс. коней, а гісторык Тот толькі ў войску налічвае 300 тыс. коней. Вядома, жывёлагадоўля была больш развіта на раўніне, чым у гарах. Разводзілі буйную рагатую жывёлу, авечак, вярблюдаў. На вываз, у тым ліку і на Беларусь, ішлі каракулевыя шкуркі.

Была развіта гарбарная вытворчасць, выраб зброі. Вышэйшыя саслоўі для пацехі, а простыя людзі для пракорму займаліся паляваннем. Важнае месца належала здабычы з марской вады спажыўной солі, якую вывазілі і за межы Крыма.

Рамеснікі і прамыслоўцы складалі ў Крыме асобнае саслоўе, якое займала сярэдняе месца паміж простым народам і вышэйшым саслоўем. Рамеснікі падзяляліся на цэхі і арцелі. Гандаль засяроджваўся ў гарадах, галоўнымі з іх былі: Бахчысарай, Гюзлеў, Кафа, Карасу-Базар, Перакоп, Ароат, Керч, Акмеч, Балаклава. Галоўнымі прадметамі гандлю былі сукно, аксаміт, шаўковыя і баваўняныя тканіны, залатыя рэчы і каштоўныя камяні. Немалаважным прадметам гандлю былі рабы, галоўным рынкам якіх была Кафа, дзе пастаянна было да трыццаці тысяч рабоў на продаж, як захопленых у палон у час бітваў, так і мірных людзей, забраных у час набегаў. Тут прадаваліся людзі, якіх прадалі гандлярам казакі і рускія ўлады. У Кафе месяцамі а то і гадамі жылі ў палоне багатыя людзі з розных краін, за якіх татары спадзяваліся атрымаць выкуп ад радні ці дабрачынных арганізацый хрысціянскіх краін.

Адносіны крымскіх ханаў з Літвой і Польшчай на першым часе можна характарызаваць як прыязныя. Ужо першы крымскі хан Хаджы-Гірэй — заснавальнік дынастыі Гірэяў быў у саюзе з Літвой і Польшчай. Але яго сын Менглі-Гірэй меў падставу не давяраць ім, таму што Літва і Польшча імкнуліся да саюзу з Ахмет-ханам яго сынамі — уладарамі Залатой Арды, якая хацела падпарадкаваць сабе Крым. Таму Менглі-Гірэй на працягу свайго доўгага панавання ( 1466 — 1515 ) быў у саюзе з Масквой і выступаў супроць Літвы, Польшчы і Залатой Арды, якую тады называлі Заволжскай Ардой.

Ужо з канца 15 ст. даволі часта адбываюцца набегі крымскіх татараў на паўднёвыя ўладанні Літвы і Польшчы. Першымі пад іх ударамі аказаліся Падолле, Валынь, Кіеўшчына, Ноўгарад-Северішчына. У далейшым, нягледзячы на шэраг замірэнняў з Вялікім княствам Літоўскім, крымскія татары працягвалі пустошыць беларускія землі. Найбольш буйнымі былі татарскія набегі ў 1508, 1510, 1521 і 1527 гады.

Трэба сказаць, што крымскім ханам захоўваць мір з Літвой і Польшчай было не проста. Па-першае, асобныя орды не падпарадкоўваліся хану і нападалі на беларускія і польскія землі. Па-другое, часта гэтыя паходы былі адказам на падобныя набегі за-

парожцаў, якія нападалі на крымскія землі. Набегі татараў на ускраіны Рэчы Паспалітай і нападзенні казакоў ( яны былі пад верхавенствам польскіх каралёў) на ўладанні татараў і турак ( аж да Канстанцінопаля-Стамбула ) былі прычынай няспынных канфліктаў паміж Польшчай і Турцыяй і ў наступныя дзесяцігоддзі.

З цягам часу нашчадкі Менглі-Гірэя зразумелі памылку арыентацыі на Маскву, якая ў выніку заваявала Казанскае і Астраханскае княствы. Аб гэтым яскрава сведчыць ліст Дэулет-Гірэя да Івана IУ, у якім крымскі хан пісаў:"... Знішчаю і палю ўсё за Казань і Астрахань. ... Пайшоў к табе, спаліў твой горад Маскву, хачу тваей кароны, але ты не прыйшоў на бітву, а яшчэ сябе царом называеш. Калі маеш яшчэ хоць кроплю сораму, то прыйдзі і дай бой. Хочаш большай прыязні з намі — аддай Казань і Астрахань, а калі толькі мне хочаш грошы ахвяраваць, то нават калі б ты меў найбольшыя скарбы свету — дарэмна ! Тое, чаго я хачу -- гэта Казань і Астрахань. Вынікі твайго панавання бачыў і ведаю".

У працілегласць да амаль дзёрзкага тону ханскіх лістоў да цароў Масквы лісты да польскіх каралёў былі поўныя павагі і прыязні. "... з боку Расіі былі паслы, якія прапануюць нам саюз супроць Вас — піша хан Іслам-Гірэй ібн Селямет да польскага караля ў 1584 г. -- Пасля заключэння саюзу з намі жадаюць яны заваяваць Польшчу з нашай вайсковай дапамогай. Зразумела, што мы гэтую прапанову не прынялі і яна нас вельмі абурыла. Хочам заключыць саюз з Вамі супроць іх. Таму з гэтай мэтай пасылаем да Вас свайго чалавека -- Сюлеймана-агу. Толькі паважаючы Вас, нашага брата і нашую прыязнь да Вас не прынялі мы гэтае прапановы, незважаючы на тое, што прыслалі яны нам багатыя дары. Калі Вы падумаеце над гэтай прапановай, то належна ацэніце наш крок. Цяпер нам толькі адно: мы адсюль, Вы адтуль мусім сесці на коней і рушыць супроць Масквы..."

У час казацкіх паўстанняў ( 1648 -- 1654 ) татары былі сілай у значнай ступені ращаючай адпаго або другога боку: у 1648 -- 1649 гадах хан Іслам-Гірэй III падтрымліваў Б.Хмяльніцкага, быў пасрэднікам у Збароўскім перамір"і, назней у бітве пад Берастэчкам ( 30 чэрвеня 1651 г. ) здрадзіў Хмяльніцкаму і ўрэшце-рэшт уступіў у саюз з Польшчай пасля бітвы пад Жванцам ( 15 снежня 1653 г. ).

Крымскія татары ваявалі на баку Польшчы ў руска-польскай вайне 1654 — 1655 гадах. У час нападу Швецыі на Польшчу крымскі хан Мехмед-Гірэй IУ стварыў пагрозу нападзення на Украіну, тым самым стрымаў запарожскіх казакоў ад выступлення супроць Польшчы. Пасля гэтага крымскія татары дапамаглі Польшчы ў вайне супроць сяміградскага князя Ежы Ракачы-- прэтэндэнта на польскі трон, разбіўшы ўшчэнт ( 1657 ) войскі венграў на левым фланзе.

З аслабленнем Рэчы Паспалітай і падзелам яе тэрыторыі паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй Крымскае ханства страціла свайго саюзніка ў абароне супроць рускага імперыялізму. Аслабленне Турцыі прадвызначыла безнадзейнасць Крымскага ханства ўстаяць у барацьбе супроць гіганцкіх сіл магутнай і агрэсіўнай Расійскай імперыі. Пачаўся перыяд сістэматычнага выцяснення спрадвечных гаспадароў Крыма--крымскіх татараў з роднай зямлі і "канчатковага вырашэння татарскай праблемы" у маі 1944 г.

## ШТО ЧУВАЦЬ ПРА МЕНСКУЮ ДЖАМІЮ ?

З такім пытаннем наш карэспандэнт звярнуўся да архітэктара Барыса Аляксандрава, які дбае аб аднаўленні мячэці.

" Вырашаюцца два пытанні — кажа спадар Барыс, — дзе будзе стаяць храм і як ён будзе выглядаць. Пажадана было аднавіць мусульманскую святыню на пляцы, які яшчэ ў 19 стагоддзі быў уласнасцю татараў. Найбольш падыходзіла пляцоўка каля былога мусульманскага мізару. Ужо складзена патрэбная дакументацыя, атрымана згода неабходных устаноў, а цяпер у Мінскім гарвыканкаме вырашаецца пытанне аб вылучэнні пляца на мясцовасці.

Пошукамі граніц былога мусульманскага мізару ( цяпер улады катэгарычна забараняюць што-небудзь будаваць на касцях памерлых )і чарцяжоў былой мячэці доўга, настойліва і рэзультатыўна займаўся Ісмаіл Александровіч. Аб"ёмна-планіровачнае рашэнне джаміі, яе фасады будуць поўнасцю паўтараць існаваўшую ў Мінску мячэць. Спадар Уладзімір Трацэўскі і яго калегі ўзнаўляюць архітэктурна-мастацкі выгляд джаміі, што вельмі парадуе старшае пакаленне мусульман, якія памятаюць дзейную мячэць у пачатку 20 стагоддзя."

## ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДАРУНКІ, ДАРАГІЯ СЯБРЫ

Апошнім часам згуртаванне "Аль-Кітаб" атрымала нечаканыя і вельмі прыемныя падарункі. Алесь Баркоўскі, наш даўні прыяцель, перадаў адбітак артыкула Віталя Вольскага "Наконт нацыянальнай літаратуры беларускіх татар", а таксама біяграфічныя артыкулы пра польскіх татараў — Крычынскага Наймана Мірзу Лявона Арслана і Крычынскага Наймана Мірзу Альгерда.

Генадзь Маслыка перадаў нам адбітак артыкула Івана Луцкевіча "Ай Кітаб", які мы змяшчаем у гэтым нумары "Байрама".

Рамуальд Сабалеўскі з Познані даслаў нашаму згуртаванню кнігі "Татары ў Літве і Польшчы ў ХШ — ХУШ стагоддзях" Яна Тышкевіча, "Крымскае ханства і яго адносіны з Польшчай у ХУ — ХУШ стагоддзях" Лешака Падгарадзецкага, "Польскія татары ў 1918 — 1939 гадах" Алі Міськевіча. Дачка Тамары і Рамуальда Сабалеўскіх — Эльвіра Валішэўская-Сабалеўская намалявала некаторыя мячэці нашых татараў. З гэтых карцін зроблены рэпрадукцыі-паштоўкі і два камплекты мы атрымалі з Познані разам з кнігамі.

Карціны таленавітай мастачкі выклікаюць цёплы, нават шчымлівы ўспамін у тых людзей, якія памятаюць нашы джаміі, калі па пятніцах яны поўніліся вернікамі. У Багоніках і Крушнянах узносяцца малы Алаху, а ў Даўбуцішках, Ляхавічах, Некрашунцах, Менску толькі старажылы могуць паказаць месца, дзе стаялі джаміі. Няма мячэці і ў Вільні. Навагрудская мячэць спаганена савецкай уладай.

Але можа надыйдуць лепшыя часы і мы ў менскай джаміі, якую, Іншала, адбудуем, а мастачка Эльвіра Валішэўская-Сабалеўская і яе бацькі прывязуць да нас сваю калекцыю карцін на выставу.

Паведамляем таксама нашым чытачам, што згуртаванне "Аль-Кітаб" мае кнігу "Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі" Пятра Бараўскага і Аляксандра Дубіньскага, а таксама фільмакопію кнігі "Літоўскія татары" Станіслава Крычынскага.

# ПАЗНАНСКАЯ МЯЧЭЦЬ, ПАЗНАНСКІЯ ТАТАРЫ

Нядаўна ў пазнанскай прэсе з"явіліся звесткі пра тое, што ў Познані будзе створаны асяродак арабскай культуры. Ініцыятарам гэтага мерапрыемства з"яўляецца Міжнародная Арганізацыя Арабскіх Клубаў.

У большасці пазнанцаў гэты аб"ект асацыіруецца з экзатычнымі гасцямі з арабскіх краін далёкіх раёнаў Азіі або Афрыкі. Але напэўна нямногія ведаюць, што ў мячэці можна будзе спаткаць таксама людзей з такімі звычайнымі прозвішчамі, як, напрыклад, Александровіч, Талькоўскі, Якубоўскі, Ясінскі. І сапраўды не будуць гэта навічкі, неафіты, якія прагнуць стаць паслядоўнікамі Прарока Мухамеда. Наадварот — гэта сем"і, якія ўжо 600 гадоў жывуць у Польшчы і хутка будуць адзначаць свой шматвяковы юбілей з некалькімі тысячамі аднаверцаў, распрушаных па усей Польшчы. Называюць сябе па-рознаму — "мусульмане", "муслімы", найчасцей аднак — "палякі татарскага паходжання, польскія татары". Спрадвеку жывуць на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і Рэчыпаспалітай, пасля 1945 года ў выніку рэпатрыяцыі з СССР таксама і на заходніх землях, інтэгральна зрасліся з польскай грамадскасцю. Цяпер амаль нічым ужо ад яго не адрозніваюцца — акрамя рэлігіі, якую беражліва перадаюць з пакалення ў пакаленне. І толькі ў некаторых разрэз вачэй ды цямнейшы колер скуры напамінаюць пра мінулыя часы.

Найбольш іх паявілася ў Польшчы ў часы Ягелонаў. Цяпер бы мы назвалі іх палітычнымі эмігрантамі — староннікамі звергнутыў ханаў, іх прыбліжанымі, ахоўнікамі. Яны атрымлівалі ў Рэчыпаспалітай надзелы зямлі і прывілеі, за што плацілі вернай службай у харугвах конніцы ( менавіта ад прозвішча аднаго з татарскіх родаў, князёў Уланаў, пачалі называць лёгкую конніцу, якая пазней пашырылася па усёй Еўропе ).

Татары дзялілі з Польшчай увесь гістарычны лёс, ад Грунвальда пачынаючы, цераз шведскі "патоп", Вену, раздзелы, паўстанні, канчаючы лагерамі ў Сібіры. Па ацэнцы Старшыні Задзіночання польскіх татараў Стэфана Мустафы Мухарскага яго супляменнікаў каля пяці тысяч, ды яшчэ на Беларусі і ў Літве некалькі дзесяткаў тысяч.

у Польшчы найбольш татарау жыве у Беластоцкім ваяводстве, там знаходзяцца дзве старадаўнія мячэці. Трэцюю пабудавалі нядаўна у Гдаљску. Мусульманскія абшчыны існуюць таксама у Варшаве і у Гажове Вялікапольскім. Невялікія групы татарау жывуць таксама у іншых мясцовасцях, як Шчцянка, Эльбланг, Быдгашч. Невялікая колькасць татарау жыве у Познані.

Пан Ромуальд Сабалеўскі ужо на пенсіі, мае трое дзяцей і шасцёра ўнукаў. Праўда, па яго твару не вельмі відаць яго ўсходняе паходжанне. Яго жонка Тамара з роду Казакевічаў кажа, што калі у 60-я гады яны жылі у Кітаі, у час працы у дыпламатычнай місіі, яна адчувала сябе вельмі добра. "Амаль не адрозніваласяя выглядам ад мясцовых. Нераз здаралася, што кітайцы звярталіся да мяне па-кітайску". Сям"я Сабалеўскіх прыехала у Познань у 1965 г. з Шчцянкі. "Да сённяшняга дня там жывуць татарскія сем"і, падобна як і у Гажове. Але усё большая колькасць татарау пераязджае у Беластоцкае ваяводства, каб захаваць свае звычаі і веру. Вельмі цяжка заставацца мусульманінам, калі жывеш так далёка ад сваіх суплямежнікаў. Перад вайной жылі мы каля Нясвіжа на Беларусі, дзе калісьці Радзівілы заснавалі многа татарскіх засценкаў. Мелі мы свае мячэці. Пасля вайны зрабілі калгасы, а мячэці улады пераўтварылі у гаспадарчыя пабудовы. Засталося там многа нашых родных і знаёмых, якія не змаглі пераехаць у Польшчу. Татары прымалі ўдзел ва ўсіх паўстаннях,— расказвае пан Сабалеўскі, — з дзяцінства памятаю нашага старога годжу ( настаўніка мусульманскай рэлігіі ), як ен расказваў пра паўстанне 1863 годзе, пра тое, як збіраліся тады татары у Смолічах ( паблізу ад нас быў такі маёнтак ) і ішлі на вайну. Пасля паўстання пасыпаліся рэпрэсіі і ссылкі".

Сям"я Сабалеўскіх — апошняя татарская сям"я у Познані. Іншыя асобы татарскага паходжання гэта пераважна кабеты, якія жывуць ужо у мяшаных сем"ях. Пані Джаннет з роду Байрашэўскіх працуе доктарам-стаматолагам. У Познані жыве таксама яе сястра Танзіля. "Нашы дзеці стаяць перад выбарам паміж хрысціянскай і мусульманскай культурамі — кажа пані Джаннет. — І гэта для іх немалая праблема".

Гелена з роду Талькоўскіх мае ўжо двое праўнукаў. Яна маці вядомага па тэлевізійных перадачах прафесара -бактэрыялолага Януша Ельяшэвіча. "Родам я з Віленшчыны— кажа пра сябе,—

мае бацькі мелі зямельныя уладанні. Бацька быў ротмістрам у татарскім палку ў час вайны ў 1920 годзе. Я сама першы раз таксама выйшла замуж за ротмістра — Аляксандра Ельяшэвіча. У 1939 годзе ён камандаваў татарскім эскадронам 13 палка уланаў віленскіх. Гэта была астатняя татарская адзінка ў польскім войску, якая складалася з татараў".

Рысунак гербавага знака Талькоўскіх амаль ідэнтычны з гербам панаваўшай некалі ў Крыме дынастыі Гірэяў. Можа гэта не выпадкова ? "Цяжка мне адказаць. Гэта тэма лепш падыходзіць для гісторыка. Ён можа вывучыць, якія сувязі злучалі нас, польскіх татараў з нашымі аднакроўнымі братамі з Паволжа і Крыма". Фактам з"яўляецца тое, што ў Літве пражывала немала скінутых татарскіх манархаў ці прэтэндэнтаў на трон. Эмігрыравалі разам са сваей світай, вайскоўцамі і сем"ямі. Некаторыя, атрымаўшы зямельныя уладанні, заставаліся тут назаўсёды. Да цяперашняга часу жывуць іх нашчадкі. А трэба ведаць, што манархамі ў татарскіх дзяржавах маглі стаць толькі нашчадкі з роду Чынгісхана ...

Жывуць між намі мусульмане. Сваей сумленнасцю і далікатнасцю заваявалі павагу сярод суседзяў. Спрадвеку ўзбагачаюць воблік польскага грамадства, што грунтуецца на шматбаковасці культур і рэлігій, якія гарманічна развіваюцца.

## МУФТЭЙ РЭЧЫПАСПАЛІТАЙ ПОЛЬШЧЫ

Нарадзіўся Якуб Шынкевіч у Ляхавічах у сям"і Сюлеймана і Фацьмы ( дзявочае прозвішча Баргановіч ) 16 красавіка 1884 г. У 1904 годзе скончыў рэальнае вучылішча ў Менску, затым працягваў вучобу ў Санкт-Пецярбурзе спачатку ў тэхналагічным інстытуце, затым ва універсітэце на факультэце усходніх моў.

Будучы студэнтам удзельнічаў у гуртку мусульман-польскіх студэнтаў. Заснавальнікам гуртка быў Лявон Найман-Мірза Крычынскі, студэнт юрыдычнага факультэта, а пасля дзеяч Культурна-асветнага задзіночання татараў Рэчыпаспалітай Польшчы.

З пачаткам першай сусветнай вайны Якуб Шынкевіч спыніў вы-

чобу, ваявау на фронце да восені 1917 года. У 1918 — 1919 гадах жыу на Крыме. У 1919 годзе вярнууся на радзіму і як ураджэнец польскай тэрыторыі быу пасланы працягваць вучобу па усходняй філалогіі, філасофіі і гісторыі у Берлінскім універсітэце. Вучобу скончыу у 1925 годзе, атрымау вучоную ступень доктара філасофіі. У тым жа годзе Усепольскі Мусульманскі З"езд, які адбыуся 28 — 29 снежня у Вільні, выбрау яго муфтэям — духоуным кіраунікам мусульман Рэчыпаспалітай Польшчы. Выбары адбываліся у той час, калі Якуб Шынкевіч быу у Берліне, адкуль вярнууся на радзіму у студзені 1926 года.

У абавязкі муфтэя уваходзілі рашэнні строга рэлігійных пытанняу, між іншым тых, якія датычыліся прынцыпау вывучэння Кур"ана і шарыята, а таксама рэлігійных практык. Муфтэй быу прадстаунікам Мусульманскага рэлігійнага згуртавання у Рэчыпаспалітай Польшчы перад дзяржаунымі уладамі, а таксама мусульманскіх абшчын за мяжой. Муфтэй ажыццяуляу кантроль над мусульманскімі святарамі ( імамамі ), рэлігійным навучаннем ( у тым ліку у публічных школах, дзе былі значныя згуртаванні татарау-мусульман ) і дзейнасцю асобных абшчын. З 1938 года таксама старшынствавау у Найвышэйшай Мусульманскай Калегіі, створанай для нармалізацыі рэлігійнага жыцця польскіх вызнаупцау Ісламу Першым Мусульманскім Кангрэсам 31 студзеня 1938 года у Вільні.

Муфтэй шмат падарожнічау па мусульманскіх краінах, спрабуючы сабраць сродкі для будауніцтва мячэці у Варшаве. У 1926 годзе удзельнічау у Сусветным Мусульманскім Кангрэсе у Каіры. У 1930 годзе выехау на Блізкі Усход у якасці прадстауніка Урада Рэчыпаспалітай Польшчы. Быу з ім Эдвард Рачыньскі, намеснік Начальніка Усходняга Аддзела МЗС. Пабывалі у Егіпце і Каралеустве Хіджаз ( цяпер Саудауская Аравія ). З-га і 4-га мая таго ж года іх прыняу кароль Хіджаза Ібн-Сауд. У час знаходжання у Хіджазе муфтэй здзейсніу паломніцтва у Мекку і Медыну. На зваротным шляху наведау Дамаск і Іерусалім. Увосень 1930 года прадстауляу польскіх мусульман на урачыстасцях з нагоды прызнання юрыдычных правоу Мусульманскаму Рэлігійнаму Згуртаванню у Югаславіі ( там друкавалі мусульманскую літара-

туру для польскіх татарау, як і цяпер ). Наступнае падарожжа муфтэй зрабіу у 1932 годзе. Шлях пралягау па Егіпце, Сірыі, Палесціне і Турцыі. Вяртаючыся у Польшчу пабывау таксама у мусульманскіх абшчынах у Балгарыі і Румыніі. Будучы у Егіпце сустракауся з каралём Фарукам І-ым. 12 — 15 мая 1935 года прымау удзел у Сусветным Мусульманскім Кангрэсе у Жэневе. У 1937 годзе зноў паехаў на Усход, на гэты раз ва Усходнюю Індыю ( цяпер Бангладэш ). Зазначым, што не усім татарам падабаліся частыя і працяглыя паездкі муфтэя за мяжу, хоць пра кожную сваю паездку ен пісау падрабязныя справаздачы. Некаторыя з іх оныл і апублікаваны у часопісе "Татарскае жыццё".

Па ініцыятыве муфтэя і пры падтрымцы МЗС Рэчыпаспалітай Польшчы, а таксама Усходняга Інстытута у Варшаве у 1933 — 1937 гадах была арганізавана ва універсітэце Аль-Азхар у Каіры стажыроўка выпускнікоў факультэта арыенталістыкі універсітэта імя Яна Казімежа у Львове — Мустафы Александровіча і Алі Ісмаіла Варановіча. Разам з тым муфтэй накіравау таксама у медрэсе у Сараева ( Югаславія ) братоў Эсканавых з Варшавы, Самуіла Асановіча з Навагрудка і Юсуфа Канапацкага з Саколкі.

Доктар філасофіі муфтэй Якуб Шынкевіч разам з рэлігійнай дзейнасцю займауся і навукай. Пераклау з Кур"ана на польскую мову некалькі сурау і выдау у 1935 годзе у Сараеве. Разам з Алі Смайкевічам выдау падручнік для практычнага навучання арабскай мове ( друкуем у гэтым нумары "Байрама" ). Меу намер таксама пачаць выкладанне арабскай і турэцкай мовы на Студыі Усходніх Моу універсітэта Стэфана Баторыя у Вільні, аднак да стварэння такой студыі справа не дайшла. Муфтэй праяуляу вялікую цікавасць да прац польскіх арыенталістау. Вёу навуковую перапіску з прафесарам Тадэвушам Кавальскім з Ягелонскага універсітэта у Кракаве. Быу членам Арыенталістычнага Таварыства і Камітэта Шанавання Памяці Маршала Юзафа Пілсудскага.

У 1927 годзе узяу шлюб з Лідзіяй Талькоўскай, татарскай дзеячкай, заснавальніцай Гуртка польскіх дам-татарак. У іх нарадзіуся сын Джаміль. Пасля другой сусветнай вайны Якуб Шынкевіч разам з сям"ей жыу у Каіры, з 1957 года у Злучаных Штатах. Памёр 1 лістапада 1966 года. Цяпер у ЗША жыве яго сын, які узяу шлюб з мясцовай мусульманкай. Мае двое дзяцей.

Пані Лідзія Шынкевіч памерла 15 лютага 1982 года.

# РАСКАЖУ ПРА СВАЮ РАДНЮ

Продкі мае — старажытны шляхецкі татарскі род, што пасяліўся на пачатку ХУ стагоддзя на тэрыторыі сучаснай Менскай вобласці. У Менску татары жылі на Татарскай, Вялікай Татарскай і Малой Татарскай, Амуратаўскай, Турэцкай вуліцах і паблізу ад іх, а таксама на ўскраіне горада. Пазней, ужо пасля Вялікай Айчыннай вайны, Вялікую Татарскую вуліцу перайменавалі на вуліцу Дзмітрава, а Малую Татарскую — на вуліцу Калгасную. Цяпер на месцы гэтых вуліц праспект Машэрава. Зберагліся толькі два старыя будынкі на вуліцы Замкавай. Непадалёку ад мячэці быў наш дом. Старэйшыя людзі мне расказвалі, як замест драўлянай у Менску была пабудавана цагляная мячэць, як мязім ( муэдзін ) з мінарэта заклікаў мусульман да малітвы, а пасля ішло богаслужэнне. Ужо да вайны савецкая ўлада ў мячэці зрабіла склад, а пасля вайны — клуб ДОСААФ. Знялі купал, мінарэт. У 1957 годзе я пераехала жыць на другую вуліцу і не бачыла, як у 1960-х гадах мячэць разбурылі.

Па мусульманскай традыцыі у нас вельмі трымаюцца сваей радні. Памятую сваіх дзядоў і бабуль. Яны нарадзіліся ў другой палавіне мінулага стагоддзя. Пры савецкай уладзе іх дзеці працавалі на заводах, на зямлі. У бабулі Фацімы Якаўлеўны Мухля і дзядулі Анзельмы Аліевіча Багдановіча было пяцёра дзяцей— дзве дачкі і тры сыны. Усе былі здольныя і добра вучыліся. Бабуля займалася агародам, працавала ў калгасе, палі якога знаходзіліся непадалёк ад хаты.

Другое пакаленне — мае бацькі, цёткі і дзядзькі. Малодшы сын Багдановічаў — Хасень Анзельмавіч — мой бацька. Нарадзіўся ён у 1900 годзе, памёр у 1963. Шлюб узяў з Амінай Ібрагімаўнай Карыцкай, родам са Смілавічаў. У іх нарадзіліся сыны Гарун і Мухамед і я, дачка, якую назвалі ў гонар бабулі Фацімой. Сям"я маёй маці таксама вызначалася працавітасцю і набожнасцю. Дзядуля Ібрагім Мустафавіч Карыцкі працаваў на зямлі, а ў вольны час шыў кажухі.

Дзядзькі і цёткі па бацькавай і мацярынскай лініі пажаніліся і выйшлі замуж за сваіх супляменнікаў. Мы парадніліся з Паўтаржыцкімі, Байрашэўскімі, Бяцюткамі, Міскевічамі, Канапац-

кімі, Хасяневічамі, Шчуцкімі, Асановічамі, Александровічамі. У час Вялікай Айчыннай вайны яны абаранялі сваю Бацькаўшчыну — Беларусь. Дзядзька Якуб Анзельмавіч загінуў пад Масквой Трое стрыечных братоў загінулі ў партызанах. Наша сям"я перадавала партызанам вопратку, лекі. Мой брат Гарун у час вайны меў II — I4 гадоў ( нарадзіўся ў I930 г. ). Ён хадзіў да лагера савецкіх ваеннапалонных, насіў ім перадачы, быў у іх на пасылках.

Брат мой быў вельмі здольным, працавітым і добрым. Скончыў тры інстытуты, працаваў на кіруючых інжынерных пасадах да I972 года. Карыстаўся павагай і вялікім аўтарытэтам сярод супрацоўнікаў. Эрудыцыя і глыбокія прафесійныя веды прыцягвалі да яго многіх людзей. За сумленнасць, працавітасць, веды, любоў да людзей калегі да яго імя Гарун дадалі ганаровыя словы аль-Рашыд ( у зборніку казак "I000 і адна ноч" высакародны правіцель называўся Гарун-аль-Рашыд ). І гэта яму падабалася.

Пад час службы ў войску ён уступіў у КПСС. Але з цягам часу зразумеў, што паводзіны партыйных і гаспадарчых кіраўнікоў вельмі адрозніваюцца ад таго, што патрабуе статут. Ён гэта адчуў, калі заступіўся за добрых, сумленных супрацоўнікаў, якія не спадабаліся начальству. Асабіста гэта справа не датычылася да Гаруна, але як чалавек ён не мог застацца збоку і уступіў у няроўны бой. Калі яму казалі, што перамагчы зло немагчыма, то ён адказваў: "І адзін у полі воін, калі гэта сапраўдны воін".

За крытыку кіраўнікоў розных рангаў, а таксама за асуджэнне тых камуністаў, якія карысталіся службовым становішчам, яму прыйшлося многа змагацца. У час абмеркавання праекта праграмы і статута партыі ён прапанаваў чыстку партыі як сярод радавых, так і сярод кіраўнікоў. Гэта выклікала негатыўную рэакцыю. Яго абвінавацілі ў антыпартыйных і антысавецкіх паводзінах. У I972 годзе ён выйшаў з партыі, апярэдзіў падзеі амаль на два дзесяцігоддзі. Ён верыў, што здаровы сэнс і справядлівасць пераможуць. У I983 годзе Гаруна не стала. Не дажыў да тых падзей, якія пацвердзілі яго правату.

## ЁН УЗНАЧАЛЬВАЕ СУСВЕТНУЮ ЛІГУ ТАТАРАУ

Алі Акіш — прэзідэнт Сусветнай Лігі Татарау. Жыве у Германіі, у Мюнхене. Скончыу эканамічны факультэт Стамбульскага універсітэта, аутар некалькіх кніг і шматлікіх артыкулау. Галоуная тэма — татарскі нацыянальна-вызваленчы рух, праблемы выжывання татарау як народа, асабліва за межамі кампактнага пражывання у іншамоуным акружэнні. На працягу 17 гадоу працавау на радыёстанцыі "Свабода".

У ліпені 1991 года Алі Акіш пабывау у Мардовіі, наведау родную вёску бацькоу Татарскія Юнкі, узяу жменьку зямлі з мізара, дзе пахаваны продкі, каб завезці на магілы бацькі і маці у Турцыю. Тры дні правёу Алі Акіш у Маскве, быу у мячэці, гутарыу з імамам-хазрэтам Масквы Равілям Гайнутдзінам.

Для карэспандэнткі Наіле Мусаліевай прэзідэнт Акіш расказау: "У 1917 годзе мае бацькі выехалі з сяла Юне Пензенскай губерні у Манчжурыю. Цяпер гэтае сяло па-руску называюць Татарскія Юнкі і знаходзіцца яно у Тарбееускім раёне Мардовіі. Я нарадзіуся у студзені 1918 года у г.Хайлар. У гэтым 25-тысячным горадзе тады была адна з найбольшых татарскіх калоній ( пасяленняу ) — 1200 чалавек.

У 1929 г. я скончыу у Хайлары пяцігодку, дзе вучыуся на татарскай мове, але пачынаючы з трэцяга класа некаторыя прадметы выкладаліся на рускай мове. У 1936 г. я скончыу рускую гімназію.

Агульная колькасць татарау на Далёкім Усходзе у той час складала 6 — 7 тысяч— у Кітаі, Карэі; было 17 мусульманскіх прыходау".

Пасля заканчэння гімназіі Алі Акіша паслалі у Егіпет вучыцца на імама. Правучыуся там год, але з прычыны неспрыяльнага клімату прыйшлося паехаць у Польшчу. Там працавау пад кіраунікцтвам Гаяза Ісхакі — знакамітага татарскага пісьменніка-класіка і грамадскага дзеяча. У Варшаве прабыу крыху больш за год, працавау у клубе "Праметэй", створаным польскай грамадскасцю. У гэтым клубе акрамя татарау былі беларусы, украінцы, азербайджанцы, грузіны, узбекі, казахі, кіргізы, туркмены, таджыкі, крымскія татары і іншыя. Усе гэтыя нацыянальныя згуртаванні мелі свае друкаваныя выданні.

Напрыклад, паволжскія татары выдавалі свой штомесячнік пад назвай "Яна мили юл" ( "Новы нацыянальны шлях" ). Яго выданне працягвалася да верасня 1939 г., калі з захаду на Польшчу напала Германія, а з усходу увайшлі войскі Сталіна. Прадстаўнікі мусульманскіх народаў, у тым ліку Алі Акіш, пераехалі ў Турцыю. У Турцыі Акіш жыў да 1966 года і працяваў займацца культурна-асветнай працай.

У 1957 годзе Алі Акіш паехаў у Фінляндыю, дзе пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. У Фінляндыі прабыў адзін год і затым вярнуўся з жонкай у Турцыю. У 1963 годзе на турэцкай мове выйшла яго кніга "Канцэпцыя Ідэл-Урал і савецкі імперыялізм". Кніга была прызначана для азнаямлення турэцкай грамадскасці з татарскім нацыянальным пытаннем. Пасля паяўлення гэтай кнігі ў савецкай татарскай прэсе супроць аўтара пачалася кампанія нападак. Вышаўшую ў 1985 годзе кнігу "Барацьба за свабоду ў Ідэл-Урале" хоць і не шальмавалі, але як бы не заўважылі ў СССР.

На пытанне пра колькасць волжскіх татараў у Турцыі і іншых краінах Алі Акіш адказаў, што ў Турцыі татараў, якія лічаць сябе татарамі, жыве каля пяці тысяч. Астатнія татары, якіх шмат у Турцыі, ужо асімiляваны туркамі. У ЗША жыве 600 — 700 татараў, у асноўным у Нью-Йорку і Сан-Францыска. Сярод іх ёсць і бізнесмены, і вучоныя. Трэцяя вялікая татарская калонія знаходзіцца ў Фінляндыі. Там татары жывуць ужо больш за сто гадоў. Іх матэрыяльнае становішча добрае. Усе яны ўжо даўно сталі адзін аднаму раднёй. Каб не было кровазмяшэння і ў той жа час не асімілявацца, яны адкрылі месячныя курсы па навучанню татарскай мове і Ісламу для татарскай моладзі з Амерыкі, Турцыі і іншых краін, нават Татарстана.

Колькасць татараў у Кітаі і Японіі не перавышае 30 — 40 чалавек. Менш за ўсё татараў у Германіі і Швецыі. У Германіі не больш за 50 татараў, у Швецыі каля 10 — 15 татарскіх сямей.

Алі Акіш выказаў пажаданне: "Захоўвайце сваю мову, мусульманскую рэлігію. Важны фактар для захавання нацыі — самасвядомасць — наша нацыянальная гісторыя".

# РАДАЎНІЦА

( 9-ы ліст з серыі "Нашы татарскія карані" ).

Газета "Звязда" даводзіць да ведама жыхароў Рэспублікі Беларусь, што Вярхоўны Савет прыняў закон аб знамянальных датах і святочных днях, у тым ліку аб свяце ўшанавання продкаў — Радаўніцы. Гаворыцца, што раней трэба было прасіць дазволу памяняцца зменамі на прадпрыемстве, якім-небудзь іншым спосабам вырашаць праблему, а цяпер трэба толькі мець жаданне схадзіць на магілкі родных і блізкіх,каб памаліцца за свой род і за тых, хто працягвае род у будучыню. Гаворка ідзе аб пануючых на Беларусі хрысціянах, а ў мінулым камуністаў.

Духоўнае спусташэнне — гэту вялікую бяду лечаць, вяртаюць згубу духу асобы, якую ў мінулым сілай сістэматычна выбівалі і замест хрысціянства насаджалі новую рэлігію -- камунізм.

Можна толькі парадавацца за беларусаў-хрысціян праваслаўных і католікаў, што яны дамагліся лепшай змены. Але вы заўважце і другіх, тых, хто стагоддзямі жыве побач з вамі.

У газеце "Звязда" за 19 лютага 1992 года ў артыкуле "Забытая Літва" гаворыцца, што 32 тысячы татар ваявалі сумесна з войскам Вялікага княства Літоўскага ў 1410 годзе пад Грунвальдам супроць крыжакоў. Каб не гэта дапамога татар у разгроме Ордэна, то яшчэ невядома, ці былі б сёння беларусы і Беларусь.

А што маюць нашчадкі тых татар, якія жывуць у Панямонні на Беларусі ? Ні на Беларусі, ні ў Літве, ні ў Польшчы яны не маюць права нацыянальнай меншасці. Дух іх не адраджаецца. Больш таго, на Беларусі іх пазбаўляюць права грамадзяніна. Забараняюць іх прадстаўнікам вучыцца ў медрэсе на ходжаў ( настаўнікаў ) і імамаў. Беспадстаўна закрываюцца іх малыя прадпрыемствы і нават суды не бяруць разглядаць іх судовыя справы, якія апынуліся ўжо ў Вярхоўным Судзе Беларусі.

Такой знявагі да татар-мусульман наўрад ці знойдзеш дзе-небудзь у цывілізаванай краіне. Я маю на ўвазе Татарскае грамадска-культурнае аб"яднанне "Кітаб" у Гродне і малое прадпрыемства "Маяк", якое ліквідавалі — забілі. Пішу ў газету "Звязда" ўжо 9-ы ліст, а адказу няма. А можа гэта выкарчоўванне татарскіх каранёў ?

## РАЗВАЖАННЕ ПРА ДАВЕДНІК АБ ТАТАРАХ

У 1997 годзе татарская грамадскасць будзе адзначаць 600-годдзе пасялення нашых продкаў на землях былога Вялікага княства Літоўскага. Сярод многіх цікавых і карысных мерапрыемстваў, якія будуць падрыхтаваны да гэтай даты, мог бы быць пакладзены закончаны рукапіс энцыклапедычнага даведніка "Татары" ( беларускія, літоўскія і польскія ). Вядома, назва кнігі можа быць і іншая.

Пра што можна будзе прачытаць у гэтай кнізе ? Пра кожны населены пункт, дзе жыве хоць некалькі татарскіх сямей. А пра вялікія і сярэднія гарады будуць звесткі па гісторыі і культуры, пра колькасць татараў цяпер і ў мінулым, пра татарскае жыццё. Асобнай увагі заслугоўваюць нашы мізары і мячэці. Клецкія татары прапануюць напісаць асобныя артыкулы пра кожны мізар, змясціць план, паказаць на ім магілы кожнага мусульманіна. Усім будзе цікава і карысна ведаць пра мячэці, як дзейныя цяпер, так і зб'эшчаныя нелюдзямі, зруйнаваныя, спаленыя.

Вядома, у гэтым даведніку нямала месца зоймуць матэрыялы пра людзй. Гісторык літоўскіх татараў ( так іх называюць у гістарычнай літаратуры ) С.Думін мяркуе, што мы належым да 300 прозвішчаў, якія ахопліваюць каля 20 тыс. нашых татараў. Пра кожнае прозвішча і будзе артыкул: калі носьбіт гэтага прозвішча ўпершыню ўпамінаецца у якім-небудзь дакуменце, найбольш выдатныя прадстаўнікі, а таксама ўсе тыя, хто значыцца пад такім прозвішчам ( жанчыны будуць названы пад дзявочым прозвішчам ), названа імя маці і бацькі, пазначана дата і месца нараджэння, від дзейнасці, месца апошняга пражывання.

Патрэбны будуць артыкулы пра гісторыкаў, этнографаў, літаратараў, якія дачыніліся да даследавання і вывучэння нашых супляменнікаў, прычым нацыянальнасць, веравызнанне ці атэізм гэтых вучоных не перашкодзяць таму, каб аб іх ведалі нашы чытачы.

Вялікая група артыкулаў будзе пра асноўныя віды заняткаў нашых татараў, пра абрады, звычаі і традыцыі, пра гістарычныя падзеі, да якіх дачыніліся татары.

Вялікую цікавасць уяўляюць для нас паволжскія, крымскія,

касімаўскія, сібірскія ( нашы татары знаходзілі у іх падтрымку у час ссылак за ўдзел у паўстаннях супроць рускага царызму і "абжывання" ГУЛАГаў ), дабруджынскія татары. Абавязкова будуць звесткі пра краіны, дзе жывуць нашы адзінаверцы, дзе жылі і жывуць нашы татары-эмігранты ( ЗША, Аўстралія, Турцыя іншыя ).

Можа найбольшая колькасць будзе артыкульчыкаў пра пытанні, звязаныя з мусульманскай рэлігіяй. Вядома больш за 200 слоў, якія актыўна ўжываюцца ў нашых "Аль-Кітабах" і муллінскіх хамаілах. Тлумачэннямі гэтых слоў займаліся многія выдатныя вучоныя. Наогул, усе тэмы, закранутыя у "Аль-Кітабе" вартыя таго, каб пра іх напісаць у наш даведнік.

А хто ж будзе аб усім гэтым пісаць ? Нас хоць і не вельмі многа, але мы актыўныя і Алах даў нам здольнасць вывучаць, чарціць, рысаваць, фатаграфаваць, пісаць. Мы будзем рабіць гэту справу не за грошы, а за спасенне.

Пішыце пра свае прапановы, пішыце артыкулы. Ужо надрукавана каля 1000 кніг і артыкулаў на татарскую тэматыку, асабліва у Польшчы. З кожнага вялікага артыкула, кнігі трэба зрабіць энцыклапедычны артыкул на 1 -- 2 старонкі, адабраўшы самае істотнае, цікавае.

Пішыце артыкулы на беларускай, літоўскай, польскай, рускай мове, на якой вам падабаецца. Да 1997 года мы павінны гэтыя матэрыялы раскласці па алфавіту, зрабіць пераклад на беларускую, літоўскую і польскую мову ( змест даведніка на трох мовах будзе аднолькавы ), забяспечыць ілюстрацыямі.

Наш квартальнік "Байрам" будзе друкаваць вашы прапановы, змесціць назвы артыкулаў, якія мяркуецца напісаць для кнігі, надрукуе першыя сотню-другую вашых матэрыялаў, выпрацуе пэўны стыль ( не вельмі засушаны ), каб было прыемна, цікава і карысна даведацца пра наш народ, пра яго гісторыю і культуру.

Калі ж мы пастараемся і нам дапаможа Алах, то знойдуцца добрыя людзі, якія дадуць сродкі для выдання даведніка добрым друкарскім спосабам.

Луцкевіч Іван Іванавіч ( 28.5.1881, г.Шауляй -- 20.8.1919 ), беларускі археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч. Скончыў Маскоўскі археалагічны інстытут (1904), Санкт-Пецярбургскі універсітэт. Уваходзіў у рэдакцыі газет "Наша доля" і "Наша ніва", уваходзіў у арганізацыі Беларускага выдавецкага ( 1913 ) і Беларускага навуковага таварыства у Вільні. Вёў археалагічныя і этнаграфічныя даследаванні, вывучаў старажытную гісторыю Беларусі, адкрыў для навукі і апісаў святую кнігу літоўскіх татараў, напісаную арабскімі літарамі на беларускай мове Аль-Кітаб Быў ініцыятарам стварэння Беларускага музея у Вільні ( у аснову пакладзены уласныя калекцыі), першай беларускай гімназіі. Ніжэй друкуем артыкул І.Луцкевіча "Ай Кітаб", які быў змешчаны у "Зборніку"Наша Ніва" у 1920 годзе і выйшаў у Вільні у 1920г.

## АЙ КІТАБ

( З пасьмертнае спадчыны Івана Луцкевіча ).

Літоўскія татары-магамэтане, якія дагэтуль жывуць у Меншчыне і Віленшчыне, пасяліліся у нашым краю у пачатку ХУ веку. Яны былі выпісаны, як успамагацельнае войска процi крыжакаў, вялікім князем Вітаутам. Пасьля вайны яны асталіся у нашым краю, атрымалі права ажаніцца з дачкамі тутэйшых баяр-шляхты і прынялі ад іх фаміліі-прозвішчы *, звычаі, мову беларускую, толькі вера асталася магамэтанская. Вось, для духоўнае патрэбы татарскія муллы ( "молны" ) арабскімі літэрамі па беларуску перапісалі і ператлумачылі сьвятую кнігу "Ай Кітаб", збеларусчаную у "Кіцеп". — "Ай Кітаб", сьвятая кніга, гэта ёсць тлумачэнне Корану, яго прыповесьці важнейшые. Знаньне арабскае мовы хутка загінула, асталося толькі знаўства пісаць арабскімі літэрамі і чытаць напісанае па арабску. Мы бачым яшчэ шмат дакумэнтаў судовых, падпісаных мяйсцовымі татарамі па арабску, але словамі беларускімі. Гэта ідзе праз увесь ХУІ і ХУП век.

Ужо век ХУШ прынёс у пісьменстве уплывы польскіе. Дакумэнты перасталі падпісваць па беларуску, а пачалі пісаць па польску. Так сама зьяўляецца і тлумачэньне Корану на польскую мову, але пісанае арабскімі літэрамі, а ужо у канцы ХУШ веку

бачым тлумачэньне Корану, пісанае лацінкай, у пачатку-ж XIX веку нават цэлы Коран, друкаваны па польску.

Доуга прышлося шукаць Корану, пісанага па беларуску арабскімі літэрамі, і толькі шчасьлівы прыпадак давёў мяне да яго у 1915 годзі — перад занящьцем Вільні немцамі. Гэта — зложаны з колькісот страніц рукапіс ін фоліо, пісаны характарам XYI або пачатку XYII веку ^жж^, без пачатку і канца. Адзін з бэрлінскіх вучоных, якога вайна занесла ў наш край, адшыфравау некалькі страніц гэтага рукапісу, перапісываючи з арабістыкі на лацінку. Вось я і перадаю тэкст, перапісываючы гражданкай — літэра у літэру, як яны запісаны лацінкаю.

"Напрод Божэ іме успамінайма, мілосьць у нутрах свайіх уфундуем. Першый і остатній Он ест векоістый, да кожнай рэчы моцный. Ніхто Ему неподобный. Едыный ест. Есьлі нічога не было створу сьветы".

"Цемна было, очы сьветласьці не відзелі. Куры не пелі, сабакі не брэхалі. Дошч ішоу, цемна было, вецер веяу. Разумеу, што судный дзень настау".

Разгледаючи гэтае старое правапісма беларускае, пісанае арабістыкай, мы бачым дзьве характэрные асобеннасьці, каторых у кірылічным тэксьце беларускіх старых грамат ніколі не спатыкаем. Гэтак тут ясна азначаны звук "дз" — напрыклад у словах "дзень", "не відзелі", і т.д. Для гэтага у арабскай транскрыпцы ёсьць асобнае напісанне, якое перапісываушы на лацінку адзначыу перачыркненай літэрай đ. Так сама асобным знакам азначаны і звук "ць" — напрыклад "цемна", "сьветласьці", — а у кірылічнай транскрыпцы было-б "темна", "сьветласьті". Тутака бачым, што звукі "дз" і "ць" ясна пісаліся, — значыць, яны у жывой мове XYII і XYIII вякоу выгаварываліся. Гэта ёсьць бязспрэчны доказ, што жывая беларуская мова мае гэтые два характэрные звукі ад найдаунейшых часоу, і што новая беларуская транскрыпцыя есьць зусім правільная, а усе хітрыкі масквафілау, каторые не прызнавалі гэтае транскрыпцы фундуючыся на беднасьці кірылічнай транскрыпцы, ня маюць пад сабой ніякае навучнае падставы апрача русафікацыі-

нае тэндэнцыі, каторая цяпер назаўсёды адпадае з адкрыццём гэтага цэннага беларускага памятніка жывой беларускай мовы XVI або XVII вякоў.

---

x У квартальніку "Байрам" № 4 ёсць артыкул пра паходжанне татарскіх іменаў і прозвішчаў, які некалькі адрозніваецца ад думкі І.Луцкевіча.

xx Паводле даследчыка А.Антановіча папера, на якой напісаны Кітаб, зроблена ў першай палавіне XVIII стагоддзя.

## БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

1100 слоў ад дзядзькі Ісмаіла Ісмаілавіча Меметава

| Беларускае слова | Крымскататарскае слова |
| --- | --- |
| дзеўка | къыз |
| дзеянне | арекет этмек |
| дзіця, дзеці | балам, бала |
| дзядзька | эмдже |
| дзяржаўны | укметни |
| дзяўчаты | къызчыкълар |
| дзяўчына | къыз |
| дзяўчынка | къызчыкъ |
| для, для яго | не ичун, онынъ ичун |
| добра | якъшы |
| добры | якъшы |
| дождж | ягъмр |
| доктар | эким |
| доля, злая доля | вазиет, агъыр вазиет |
| дом | эв |
| дома | эвде |
| доўга | узун |
| доўгі | узун |
| дробны | юфак |
| дровы | одун |
| другі | башкъа |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
| --- | --- |
| дружба | достлыкъ |
| друк | басма, басылма |
| дрэва | терек |
| дуб | пелит |
| думаць | тушюньмек |
| думка | фикр |
| дурань | дели |
| дух | рух |
| душа | джан |
| ды | ве |
| дык | бойле, ойле |
| дырэктар | директор, мудир |
| дэпутат | депутат |
| есці | ашамакъ |
| ехаць | кетмек |
| ён, яна, яно, яны | о, о, о, олар |
| ж, жа | сен не ичунь |
| жаль | аджымакъ |
| жаніцца | эвленмек |
| жанчына | къадын, апай |
| жаць | чалмакъ |
| жонка | къадыным, апайым |
| жывёла | айван |
| жывы | джанлы |
| жыта | чавдар |
| жыццё | омюр, яшайыш |
| жыць | яшамакъ |
| з | иле |
| за | сонъ |
| забіць | ольдирмек |
| забраць | алмакъ |
| забыцца | унутмакъ, унутылмакъ |
| завод | завод |
| загадаць | эмир этмек |
| заданне | вазифе |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| задача | меселе |
| зайсці | кирмек |
| залаты | алтындан |
| замуж | акъайда ( эвли ) |
| зараз | шимди |
| заставацца | къалмакъ |
| затым | сонъ, ондан сонъ |
| заўважыць | кормек, ишанламакъ |
| заўсёды | эр вакъыт |
| заўтра | ярын |
| захацець | истемек, арзы этмек |
| заяц | къоян |
| збірацца | топланмакъ, джыйышмакъ |
| збіраць | джыймакъ |
| зброя | силя |
| зваць | чагърмакъ, адландырмакъ |
| звыш | устюден |
| згадзіцца | къайлы олмакъ, разы олмакъ |
| здавацца | теслим олмакъ |
| здаровы | сагълам |
| здароўе | сагълыкъ |
| здарыцца | олмакъ, ойле олмакъ |
| з"езд | къурултай |
| з"есці | ашамакъ |
| з-за | артындан |
| зіма | къыш |
| зірнуць | бакъмакъ |
| злавіць | тутмакъ |
| злосць | ачув |

Элли, алынъ белли.
Чаго дасягнуў да пяцідзесяці гадоў, тое ўжо і застанецца.

Етмишь, ишинъ битлишь.
Калі табе споўніцца семдзесят гадоў, то ўжо канец тваім надзеям.

## ЗАПОМНІЛАСЯ ЦУДОЎНАЯ, ХОЦЬ ЖУРБОТНАЯ МЕЛОДЫЯ

"На мусульманскім вечары Мірадж, які адзначаўся ў Доме літаратара І лютага 1992 года, гучала добрая музыка, песні. Вельмі пранікнена спяваў пад акампанемент гітары казанскі татарын, прозвішча яго, на вялікі жаль, адразу не запамятаваў. Надрукуйце, калі можна, словы і ноты адной з яго песень".

Ібрагім з Навагрудка.

Татарскі акын — паэт, пясняр, кампазітар і музыкант Рэнат Хакімаў перадаў нам тэкст на татарскай і рускай мовах песні, якую ён назваў СЫЗЛАНУ, што прыблізна на беларускай мове азначае СКРУХА — туга, якая лягла на сэрца.

Мелодыю з магнітастужкі, на якой запісана аўтарскае выкананне песні, зрабіла Аміна Тамаргаева.

Просім прабачэння ў чытачоў "Байрама" за тое, што ў нас няма некаторых літар татарскага алфавіта і мы пішам іх рукою.

1. Беркет тирес кыртын ашап ятмас әчкә ульгән чак-
тада, юл барс бака тетәп кәтмас, хельсәз беткен чакта да.
Тик син хөлкәм кыз ганычка, вак лап гемәр итасән.
Тик син хөлкәм кыз га - ныч-ка нә - селенне жуясын
2. Ак кошлар бергә булып жылы якка о-ча-лар, бергә ки-
теп бергә кейтып та ту тәрмыш и тәлер. Тик син хөлкәм кыз-

ЛАРЫЧКА, ТЕР-ЛЕ БЕТТЕН КУРӘСӘН. ТИК СИН ХӨЛКӘМ, КЫЗ-

ЛА-РЫЧ КА, НА СЕ ЛЕН НЕ ЖУ Я СЕН. 3. А-Ю У-ЗЕ КӨЧЛЕ У-

ЗЕ У САЛ УЗЕ БИК ЗУР БУЛСАДА БЕРУ ЗЕН А НЫ ӘТЛӘР КУЯ ТАЛАП, АХ-

РЫ ЯТКА КАЛДЫ-РЫП КУЯ. ТИК СИН ХӨЛКӘМ ТАРА ЛЫП БЕТМӘ ТЕР-

ЛЕ КӨЯ БӘ ХЕТ ОЗЛЕП, БЕЗНЕН БЕ ХЕТ БЕЗ НЕН КӨЧ-

ТӘ КОЧЕ БӘЗ БЕЗ-НЕН БЕРЛЕКТӘ.

---

Арол, паміраючы ад голаду не будзе жывіцца дажджавымі чарвякамі, бо хоча называцца арлом, а не курыцай.

І тыгр, знясілены голадам, каб выратавацца ад галоднай смерці не будзе есці здыхляціну, бо хоча заставацца тыграм, а не называцца шакалам.

Толькі ты, мой народзе, на жаль здрабнеўшы зусім духам і целам стаў непрыкметным. А самі мы нечага саромячыся пазбягаем адзін аднаго.

## АКРАВЕРШ У ВЕРШЫ-ГАЗЕЛІ

Напэўна усіх чытачоў "ЛіМ"а зацікавіла нізка вершаў Васіля Жуковіча, надрукаваная 15 мая гэтага года. Пра таленавітага паэта, празаіка, перакладчыка і журналіста ў Энцыклапедыі Літаратуры і Мастацтва напісана, што друкавацца ён пачаў з 16 гадоў, што яму належаць зборнікі вершаў "Паклон" (1974), "Мелодыя святла" (1976), "Суседства" (1982), кніжкі для дзяцей ( "Казачны сад", "Крылатыя сябры", "Нашы памочнікі", 1976 ). Вядомы Васіль Аляксеевіч вельмі удалымі перакладамі як са славянскіх, так і далёкіх, у тым ліку цюркскіх моў ( Махтумкулі ). Скора павінна выйсці кніга з новымі перакладамі вершаў Алішэра Наваі. Многія вершы Васіля Жуковіча перакладзены на замежныя мовы.

Вельмі зацікавіў татараў верш Васіля Аляксеевіча "Масты", арыгінальны па форме і прысвечаны напэўна мусульманіну. Гэты рэдкі у беларускай паэзіі від лірычнага верша — газель, у якім рыфмуюцца двухрадкоўі ( бейты ). І яшчэ звярніце увагу, што гэта і акраверш! Першыя літары яго радкоў ( прачытаныя зверху уніз ) складаюць імя і прозвішча Мухаммада Алі — таленавітага паэта, празаіка і перакладчыка Узбекістана. Ён добра ведае беларускую літаратуру, сябруе з нашымі пісьменнікамі і перакладае іх творы для свайго народа.

Са згоды паэта мы перадрукоўваем газель у наш "Байрам", замяніўшы адно слова, як было напісана самім аўтарам да публікацыі у "ЛіМ"е.

### МАСТЫ

Мне радасна: сяброўству ты спрыяў
У цэнтры вечных клопатаў-праяў.

Хтосьці варожасці ўзнімаў сцяну,
А ты масты прыязнасці ствараў.

Мастоў падобных ведае цану
Мо той, хто многа чым ахвяраваў.

А мо ніхто не знае той цаны.
Ды што цана тым, хто сяброў сабраў!

У свеце, дзе наўкол так многа зла,
Ах, як бракуе сувязных дабра!

Любві Жуковіч верны і дабру
І вернасці не згубіць ён пяра.

# З ТАТАРСКАЙ КУХНІ

## НАЙСМАЧНЕЙШАЯ НА СВЕЦЕ СТРАВА — КАЛДУНЫ

Oj,te kołduny nasze z Kowieńszczyzny,
Niema na świecie do nich podobizny.
Smacznie robiły je nasze kobiety,
Na stronę nawet sztrasburskie pasztety.
Najlepszy kawał mięsa wybierano,
Z wołowym łojem drobno usiekano.
/Z maszynki mięso tu nie uchodziło,
Zbyt bowiem klejkie i miażdżone było/.
Dodawszy trochę pieprzu,drobnej soli,
Z ilości mięsa o czterdziestej doli,
Listków majranu utartych na dłoni
Tak wymięszane ciasto uwijano,
Brzegi cieniuchną szklanaką okrajano,
I tak już w kształcie dziewiczego uszka
Szedły /sic/ kołduny grzać się do garnuszka,
Smaczne soczyste stamtąd wychodziły
I wnet do stołu podawane były.
W kronikach dworu bylo notowano,
Iż tych kołdunów po kopie zjadano.

Верш напісаны у 1924 годзе, калі яшчэ не было у татарскіх жанчын ніякай альтэрнатывы. Трэба было вучыцца варыць смачныя стравы. Цяпер жа у нашых паненак і маладзіц ёсць магчымасць выбраць іншы шлях — вывучыць гэты верш напамяць і прчытаць яго кавалеру, або галаве сям"і — мужу.

З М Е С Т